

"Byelorussian World"
BYELORUSSIAN - AMERICAN PERIODICAL
OF LITERATURE AND SCIENCE
*EDITOR and PUBLISHER*
*Nikolas Prusky*
7851 SHERWOOD AVE.,
DETROIT 11, MICH., U.S.A.



## А Ў СЬВЕЦЕ НАМ

Паволі

*mp* А у сьве-це нам на-ві-на бы-ла, Сьвя - ты Ве- чар!

*mp* Там Пра-чыс-та- я Сы-на ра-дзі- ла, Сьвя - ты Ве- чар!

Ў не-бе зо-рач-кі засьвя-ці-лі-ся,
Прыш-лі муд-ра-цы па-кла-ні-лі-ся,

Зо- рач- кі зась- вя- ці- лі- ся,

*p* Сьвя-ты Ве-чар!

*mp*

*p* Сьвя-ты Ве- чар!

Каб забіць Дзіця, І - рэд сам пай-шоў,
Ды да ясь-ляў шлях ні- як не знайшоў,

*mf* Уз-рас-ло Дзі-ця - Гасподзь Хрыстос-Бог *mp* Сьвяты Ве- чар!

Праў-ды сьвет знай-сьці Ён нам да-па-мог, *p* Сьвя-ты Ве- чар!

**БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ**

Но. 3. — 1963 год.

**ВЯСЕЛЫХ КАЛЯД**
**і**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА — 1964-га ГОДУ!**

жадае, Чытачам "Беларускага Сьвету", — **Рэдактар.**

**Ryhor Baradulin**

## WINTER

Grey-haired Winter with a careful hand
Tucks in a blanket on the sleeping land
But leaves the lake completely bare
Scoured by the diamond-dusted air.

So on its mirror silver black
The stars look down and the stars look back.
The moon on the mountain, copper-red
Swells like a loaf of rising bread.

The while the baying wolf complains
A meal like this would stay his pains
But hies away in a panic taut
At the rifle crack of a pine-tree knot.

I stand by a birch-tree maiden fair,
In a world so white that we hardly dare,
(Though both to the roots of being yearn)
To dream of the far-off spring's return.

As, when its green flags are unfurled,
We'll long for this white enchanted world.

Хведар **Ільляшэвіч**

## СОН

Апавяданьне

Час здаецца мёртвым бяздоньнем. Яны і ня ведаюць, каторая цяпер гадзіна. Толькі чым глыбейшая ноч, тым выразьней адчуваюць яны цішыню. У ёй яны гінуць, як у акіяне. І ў гэтай цішыні нейкім шорахам лістоў гучаць іх словы. Здаецца, ня словы, а пакорныя цені іх думак лапочуць з заміраньнем. Два чорныя цені нярухомымі касматымі сабакамі ляглі ля сьценаў. Калі агонь успыхвае ў печы, цені выцягваюцца да столі быццам сабакі прачнуліся і пацягваюцца спрасонку.

—Аб чым думаеш, — пытае Ягор, і вочы яго, як два вільгот-

ныя сьліжы, спаўзаюць паволі ў бок нярухомага суседа Сьцяпана.

—Так сабе... ні аб чым, — памаўчаўшы крыху, нехаця адказвае Сьцяпан. Ен як-бы цэдзіць словы, і яны расплёскваюцца ў цішыні. Цень ягоны парушаецца на сьцяне, быццам куртаты сабачка ловіць муху.

І яны ізноў доўга маўчаць. Жар у печы цямнее і паволі гасьне. Пахне паленым торфам і сырой гнільлю.

—Сьцяпан! — чуваць ізноў нясьмелы, ціхі голас Ягора — Ты сьпіш?

—Не! — неахвотна адказвае ён, як быццам адганяе дакучлівую муху. Ен ня хоча гаварыць. Яму прыемна так моўчкі, нярухома сядзець каля агню. Нейкімі цёплымі колерамі калышуцца абразы далёкага і блізкага. Здаецца, ажывае яно ў ціхіх снох.

—Ты скажы, — не адстае Ягор, — як можна пазнаць, што золата ў зямлі ёсьць.

У Сьцяпана у зрэнках мільгаціць залацісты пылок, быццам маленькія іскрынкі запалі ў іх. Можа золата адбілася ў іх і яго налёт астаўся з тых часоў, калі ён быў у ссылцы на Урале і Калыме. Сьцяпан доўга маўчыць. Ня раз-жа ён ужо гаварыў аб гэтым.

—Трэба нюх мець, — пасьля доўгага маўчаньня адказвае ён.

—Так, як на зайца. Іншы цэлы дзень ходзіць і вернецца з нічым. А іншы як-бы нюхам чуе...

Пад нарастаючым попелам таюць апошнія вугольчыкі. Але яшчэ крыху абдае цяплом.

Ягор чуецца няёмка. Хоча гаварыць, падзяліцца думкамі. Але Сьцяпан маўчыць. Золата для яго быццам нічога ня значыць. Ен нават ня любіць гаварыць аб ім. А Ягор... Думкі аб золаце не даюць яму спакою. У яго даўно зрадзілася жаданьне стацца “старацелем“. Ен, як вернецца да хаты, абавязкова будзе шукаць золата. Ен часта сьніць, што вее золата. Замест жытніх зернятаў сыплецца з веялкі залацісты буйны лён.

— А ёсьць такое каменьне, — ня можа стрымацца ён, — як разаб’еш яго — у сярэдзіне галачка цёмная, а на ёй залатыя жылкі. Гэта ня золата.

— Не, гэта ня золата, — адказвае Сьцяпан. —Я чуў — неяк называюцца такія каменьні, але забыўся.

Ягор ізноў аддаецца марам. Золата! Золата!... Ен чуў ад аднаго работніка, што на Лані, пад Лунінцам калісь знайшлі залатаносны пясок. Прыпадкова трапілася яму ў рукі кніжка Джэка Лондана. Так, на Беларусі павінна быць золата... Але вось Сьцяпан гэты чалавек, які найбольш мог-бы заспакоіць ягоную зацікаўленасьць, маўчыць...

—А як ты думаеш, — прабуе ізноў пачаць гутарку Ягор, — ці ў балотах можа быць золата?

—Хіба не. А, зрэштай, хто яго ведае. Як якое балота... Сьцяпан варочае асьцярожна вугольчыкі, і цені ізноў варушацца на сьценах.

“Хто яго ведае“... паўтарае ў думках Ягор. “Як якое балота“....

А на Палесьсі было калісь мора... Ен чытаў аб гэтым. Можа каб дабрацца да дна, там і золата ёсьць. А яго маглі выкінуць наверх падземныя крыніцы.

Быццам нейкая каляровая казка рысуецца перад ім. На палескіх рэках і балотах яшчэ шмат няведамага чалавеку. Гэта — беларуская джунгля. Золата... Ен знаходзіць залатую жылу, не — цэлыя глыбы. Золата пераліваецца, мігціць зьліткамі зор, быццам даўно ўпаўшыя ў палескія балоты зоркі застылі нязгаснучым блескам. Залатыя пырскі сыплюцца на бутары, а пад ёй стаіць Ягор і сьмяецца. Радасны, задаволены.

Сьцяпан бачыць і як-бы чуе казку маладога Ягора. Але ён стары.

—Добра, як было-б у нас золата. Ды яго, пэўна, няма, — кажа холадна ён. — Край наш азалоціш працай.

Але казка падабаецца яму.

—Ну, ну, ня думай толькі зашмат. Каб з глузду ня зьехаў, — дадае ён. — Я ведаю такіх...

Ягор сьціхае. На хвіліну мары яго перарываюцца. І ўсё ў бараку становіцца нейкім звычайным, нудным. Агонь зусім стух. Постаці іх зьліліся з цемрай. У ёй дзесь схаваліся і касматыя сабакі — іхнія цені. Толькі на шыбах вакна сьвятлее копаць начы.

...Шырока разьлілася Прыпяць. Адно мора. Залатымі рыбкамі трапечацца ў ім сонца. Ягор плыве і плыве. Моцнымі ўзмахамі вёслаў адгартае глыбокую ваду. Гарыць Палесьсе, запаленае сонцам. Быццам у яго воды ўпалі яго расплаўленыя кавалкі, плыве іскрыстаю прозалацьцю, і здаецца яму, што ў тоні водаў, на дне ракі, калышацца залаты ланцуг.

З прагавітасьцю ўглядаецца Ягор у ваду. “Дастаць-бы гэты ланцуг“... Золата хапіла-б ня толькі для яго, але для ўсіх. Тады настрэшнікі зрабілі-б усе залатыя. А нашто тады былі-б настрэшнікі. Заміж саломы, хаты крылі-б залатымі гонтамі. Але ня добра было-б. Занадта блішчэлі-б... У бараку становіцца ўсё больш халадней. Шыбы вакна бялеюць, быццам іх нехта няпрыметна пабяліў вапнам.

...Прыязджае ён у сваю вёску. Новы самаход. Усе выбягаюць насустрач. Аўтамашына становіцца каля іхняй хаты. І гэта ўжо ня хата. Гэта вялікі, сьветлы дом. Усе бягуць да яго. “Вы што, — пытае ён, — яшчэ ўсё саломкай стрэхі крыеце. Даволі вам жыць у бядзе. Я вам пакажу, як трэба сапраўды жыць.“

Золата сыплецца, быццам з веялкі залацісты, буйны лён. І хаты замяняюцца ў вялікія дамы. "А чаму ў вас вадаправоду няма? Цёплая вада павінна быць у сялянскай хаце. Радыё." І чуе Ягор, як прыгожая, чароўная музыка плыве з адчыненых вокнаў. І так сьветла, так празрыста ўсюды. І бярозкі, і дарожкі, і мосьцікі — ўсё інакш выглядае. А вось адзін немец яму расказваў, як у іх вёску калісь прыехаў іх зямляк з Амэрыкі. Отто Білё. Ен прывёз з Амэрыкі самаход і справіў гулянку для ўсяе вёскі. І Ягор таксама справіць гулянку. У алешніку за вёскай расчысьцяць пляц. Расставяць сталы. Накрыюць чыстымі, белымі абрусамі...

Сьцяпан як быццам бачыць і чуе каляровую казку маладога Ягора. Але ён стары. Ен прайшоў жыцьцё, бачыў залаты дождж.

—Ня золата, братка, — кажа ён Ягору. — Праца, праца! Працай і Палесьсе зробім залатое. Вось, каб тую працу, што мы кладзём на нямецкія нівы, ды на родныя палеткі... Ня трэба і золата.

Але Ягор ня чуе ягоных слоў. Ен сьпіць, прытуліўшыся да халоднай печы.

—Уставай, уставай, — будзіць ён Ягора. — Хутка, мусіць і ўставаць трэба.

Ня сьпіцца Сьцяпану. Думкі наплываюць у галаву. Ен варочаецца з боку на бок, але заснуць ня можа. Ен устае, накрывае Ягора, папраўляе падушку. Сумна аднаму. Цяпер яму шкада, што ён не пачаў гутаркі з Ягорам. Падыйшоў да вакна. Пастаяў крыху. Ціха, ціха. Толькі ў паліцэйскай будцы чуваць здалёк прыглушаны рогат. Белая шыба вакна наліваецца фіялетам.

—Хутка на работу, — думае Сьцяпан і пазяхае, сілячыся нагнаць сон. Думкі мутнеюць, кудысь адплываюць, робіцца лёгка.

—Золата... шопатам гаворыць ён да сябе і ўсьміхаецца нейкай жаласьлівай усьмешкай.

---

## Лісты ў Рэдакцыю.

**Паважаны Сп. Прускі. Перасылаю на часапіс "Беларускі Сьвет" 5 даль.**
**З пашанаю, Пятро Пецько.**

**Дарагі Мікола! Перасылаю табе 5 даль. за праданыя часапісы "Беларускі Сьвет" № 2, за 1963 г.**
**З пашанаю, Мікола Кучура.**

**Гаспд. Прускі. Перагледзеў апошні № "Беларускага Сьвету" і мушу сказаць шчыра, што ён мне не спадабаўся. Мая вам парада: "Злазь з даху і ня псуй гонтаў..." ды грамадзкіх грошай. Мне шкода дэтройцкіх беларусаў, якія выдаюць вялікія грошы на бязграматную лістоўку. Ваш далёкі знаёмы.**

Ад Рэдактара: Як правіла ўсе ананімы выкідаю ў сьметнік. Гэты таксама.



мгр. М. Шкялёнак

## ДА ЛІТОУСКА-БЕЛАРУСКІХ АДНОСІНАЎ

(На просьбу некаторых нашых чытачоў перадрукоўваем артыкул **мгр.** М. Шкялёнка, які быў зьмешчаны ў газэце "Беларускі Фронт", № 16(50), за **15** жніўня 1939 г. у Вільні, перад самым пачаткам II-ое Сусьветнае вайны.)

**У артыкуле "Аб беларуска-літоўскіх адносінах" ("Беларускі Фронт", № 14) мы разглядзелі тэрыторыяльныя прэтэнсіі Літвы да беларускіх абшараў. Цяпер спынімся над аргумантамі, на якіх літоўцы апіраюць свае жаданьні. Усе гэтыя аргуманты зводзяцца, фактычна, да аднаго гістарычнага, — які выступае ў розных модафікацыях. Першая яго фаза выявілася ўжо ў пачатковую пару літоўскага адраджэнскага руху, калі паўстала літоўская гісторыяграфія. Літоўскія гісторыкі, як Басановіч, Давойна-Сыльвэстровіч, выступілі на арэну гістарычнага дасьледаваньня жыцьця свайго народу з вялікім размахам. Яны захапілі літаральна ўсю гісторыю б. Вялікага Княства Літоўскага і ідэнтыфікавалі яго з паўстаючай "Новай Літвой". Пагляды літоўскіх гісторыкаў перадаліся літоўскім паэтам, якія ў сваіх патрыятычных творах пісалі напрыклад аб Беларусі і далёкай Украіне як аб "кусках" аднае Вялікае Літвы, што ізноў паўстае да жыцьця. З гледзішча гэтага размаху можна сказаць, што літоўскі адраджэнскі рух быў поўнай процілежнасьцю беларускаму.**

**Прэтэндуючы на ўсю гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, новая Літва, ясна, прэтэндавала тэарытычна і на ўсе належаўшыя да яго землі, тым больш, што панаваўшая ў XIX ст. тэорыя аб дагістарычных насельніках Беларусі казала, быццам уся Беларусь да прыходу беларускага народу, была заселена продкамі літоўцаў, якіх беларусы адсунулі на поўнач, займаючы іхнія сялібы. Як бачым, гэта першая фаза "гістарычнага аргуманту" абаснавала літоўскія прэтэнсіі да беларускіх земляў дзяржаўнай прыналежнасьцю апошніх да Вялікага Княства Літоўскага і ў дапамогу паклікалася на літоўскі характар дагістарычнага насельніцтва Беларусі. Гэткі пагляд даваў магчымасьць літоўцам захапіць толькі беларускіх земляў, колькі яны хацелі.**

**Гэтая фаза скончылася тады, калі зьявіліся гістарычныя працы беларускіх гісторыкаў такай меры, як М. Даўнар-Запольскі і М. Любаўскі. Дзякуючы іхнім капітальным досьледам над гісторыяй роднага краю, была канчальна разьвеяна нарбутаўская міталёгія, а гісторыя Вялікага Княства Літоўскага знайшла навуковае асьвятленьне. Было сьцьверджана, што Вялікае Княства зьяўлялася гаспадарствам "рускім" — беларускім — і было створана беларусамі. Працы Даўнар-Запольскага і Любаўскага дагэтуль лічацца найбольш аб'ектыўнымі і грунтоўнымі з усяе гісторыяграфіі аб Вялікім Княстве Літоўскім. Утоесамленьне Вялікага Княства Літоўскага з "новай Літвой" сталася немагчымым. Польскі гісторык Ф. Конэчны ("Атэнэум Віленьске", г. IX, 1930) прапанаваў нават і вельмі трапна, на азначэньне таго, што ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага было зроблена не славянскай часткай яго насельніцтва, ужываць назоў "Летува", "летуўскі" (як называюць яны сябе сяньня), а не "Літва", "літоўскі", бо гэтыя апошнія ў Вялікім Княстве**

Літоўскім адносіліся наўперад да беларусаў, што сьцьвердзілі іншыя дасьледчыкі. Аднachасна археалягічныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі ўсё больш пацьвярджалі, што беларускія плямёны былі першабытнымі насельнікамі свайго краю і нават, што дарэчча Прыпяці было славянскай прарадзімай, скуль славяне разыходзіліся ў розныя бакі.

Дагістарычныя ”уладаньні літоўскага этнаграфічнага элемэнту ў сьвятле новых досьледаў усё больш корчыліся. У сувязі з гэтым зчэзьлі літоўскія пратэнсыі да беларускіх земляў на аснове дзяржаўнае прыналежнасьці іх да былога Вялікага Княства, літоўцы моцна адступілі, але ня хочучы аканчальна зрэзыгнаваць з пратэнсыяў і замкнуцца ў сваіх этнаграфічных граніцах, ахварбавалі гістарычны аргумант у новы колер і пусьцілі ў сьвет. Нарадзілася другая яго фаза, каторая пануе дагэтуль у літоўскім грамадзянстве. Паводля гэтай адмены літоўцы кажуць, што іхнія этнаграфічныя межы ў мінуўшчыне ішлі значна глыбей у беларускія абшары і прынамся пакрываліся з тымі граніцамі, дзе цяпер жывуць беларусы-каталікі. А гэтыя граніцы больш менш пакрываюцца з тымі, якія бачым на літоўскіх картах Вайчуляйціса (гл. № 14 “Беларускага Фронту“). Літоўцы лічаць, што цяперашнія беларусы-каталікі — гэта па паходжаньню чыстыя літоўцы, але з цягам часу збеларушчаныя. Чыстымі беларусамі трэба лічыць толькі праваслаўных. Разважаньні гэтыя апіраюцца галоўна на тым, што беларусы куды раней прынялі хрысьціянства ўсходняе і трымаліся яго, а літоўцы ахрысьціліся ў каталіцтва толькі ў 1387 г. і такжа моцна трымаліся сваёй р.-каталіцкай веры. Гэткім парадкам хоць з цягам часу значныя літоўскія абшары былі збеларушчаны, дык усё-ж рэлігія мае быць добрым паказьнікам, дакуль гэтыя абшары даходзілі ў мінуўшчыне. На гэтым дапушчэньні, што беларусы каталікі гэта толькі збеларушчаныя літоўцы і апіраюцца літоўскія пратэнсыі да беларускіх земляў з Вільняй і Горадняй.

Яны маюць вярнуцца да Літвы і тады пачнецца іхняе адбеларушчаньне. Таму літоўцы не ўважаюць патрэбным дэкляраваць нейкую аўтаномію для земляў з каталіцкім беларускім насельніцтвам. Проста пачалася-б рэвіндыкацыя ўкрадзеных душ, як яна адбываецца ў іншых краінах. І хоць гэты аргумант у новай форме ёсьць куды скрамнейшы ад папярэдняга, аднак і ён ня можа ўтрымацца ў сьвятле дасюлешніх навуковых дадзеных. Бо калі хоць на хвіліну пагадзіцца з літоўскім поглядам, што беларусы толькі былі праваслаўнымі, тады трэба раз назаўсёды адкінуць літоўскія пратэнсыі да Горадні і Вільні, бо гэтыя гарады заложаны праваслаўнымі беларусамі.

Што да Горадні, дык апошнія раскопкі Едкоўскага ўстанавілі, што Горадня была ”рускім“ (беларускім) горадам ад свайго пачатку і што ўжо ў XII ст. тут былі праваслаўныя мураваныя цэрквы! Дапушчэньне праф. Г. Лаўмянскага, быццам Горадня была спачатку літоўскім аселішчам і толькі ў XV ст. сталася горадам, аказалася ні на чым не апёртай байкай. Няма ніякіх дадзеных, каторыя пацьвярджалі-б ”літоўскі“ (летуўскі) пачатак Горадні.

Што да Вільні, дык тут на карысьць беларусаў прамаўляюць ня толькі археалягічныя дадзеныя, але і пісьменныя дакументы. ”Крывы горад“, дзе вядуцца раскопкі, як і на-



зовы гары, дзе ён быў (”Лысая“, ”Крывая“, пакуль яе не замянілі на ”гару Бэкеша“) сьведчаць цалком ясна, што тут ад пачатку было славянскае крывіцкае аселішча, што ёсьць згодным з весткай Васкрэсенскага летапісу аб Вільні. Незалежна ад гэтага там, дзе цяпер ёсьць Бакшта, быў другі ”рускі“ (беларускі) умацаваны горад. А калі зьвярнуцца да пісьменных дакумантаў аб Вільні, дык адразу робіцца ясным, што найстарэйшая частка Вільні, яе ”сэрца“ была ”рускай“ (беларускай) і праваслаўнай. Гэтае ”сэрца“ Вільні знаходзілася ў абрубе даўнейшых віленскіх муроў, якія паводля М. Лаўмянскай (”Вільно пшэд наяздэм москевскім 1655 р.“) пачыналіся ад цяперашняй Катэдральнай званіцы і ішлі вуліцай Боніфратэрскай, Людвісарскай да Віленскай, потым між Пазнанскай і Жэлігоўскага і, не даходзячы да Завальнай, беглі ўздоўж яе да Конскай, потым па Базыльянскай да Субача, скуль да мосту праз Віленку пры Мэтрапалітальнай царкве; згэтуль ішлі ўздоўж Віленкі да мосту пры Бэрнардынскім касьцеле, дзе і канчаліся, бо далей места забясьпячала Віленка аж да замку. У гэтай ”рускай“ частцы Вільні было 10 цэркваў, з якіх бальшыня зьявілася надоўга перад касьцёламі. Тут канцэнтравалася ўсё жыцьцё гораду. Найдаўнейшыя касьцёлы былі тут збудаваны толькі ў канцы XIV ст. (Катэдра і Сьв. Мікалая, які абслугоўваў каталіцкіх ”гасьцей“ (купцоў), пераважна немцаў). Назовы брамаў у мурох — Субача, Вострая, Спаская, Рудніцкая (ад слова ”Руднікі“), Татарская, Вялейская, Бэрнардынская і Магдалены (дзьве апошнія выступаюць пазьней), як і вуліц з ”завулкамі“ (Вялікая, Замковая, Зарэчная, Савіча (сяньня Бакшта), Спаская (сяньня Міласэрная), Рудніцкая, Конская, Філіпаўская (сяньня Гаона), Прачысьценская (сяньня Мэтрапалітальная), Цялячча (сяньня Людвісарская), Скапоўка (ад слова ”капа“, ”скапіцца“, што азначала месца, дзе зьбіраўся копны суд, а не ад нейкага баламутнага ”смока“, як выводзе Клос у сваім праваднiку па Вільні, бо ў беларускіх местах да ўвядзеньня майтборскага права судоўніцтва знаходзілася ў руках г. зв. копных судоў) і іншыя — гавораць самі за сябе. Нічога ”летуўскага“ тут знайсьці немагчыма. Гэтак выглядае справа Горадні і Вільні, нават калі пагадзіцца з цяперашнім літоўскім пунктам гледжаньня аб літоўскім паходжаньні беларусаў-каталікоў.

Але літоўскае гледзішча ёсьць памылковым з іншых прычынаў. Наўперад трэба адкінуць думку аб масавай беларусізацыі літоўцаў на працягу гісторыі. Калі частка літоўцаў і зьбеларушчылася, дык, адносна, вельмі малая і то там, дзе літоўцы жылі зьмяшаныя з беларусамі. Раскопкі ведзеныя ў Дзісеншчыне, Пастаўшчыне, Вільні і Горадні даказалі ўсюды наяўнасьць славянскага (крывіцкага) насельніцтва на мясцох раскопак ад найранейшай пары гісторыі. Гэткім парадкам зьбіваецца пагляд, быццам этнаграфічная літоўская мяжа даўней праходзіла значна больш на поўдзень (Паставы - Маладэчна - Ваўкавыск-Слонім, да якой мяжы больш менш даходзіла беларускае насельніцтва паводля праф. Г. Лаўмянскага, а за якой на поўнач ляжалі або абшары заселеныя літоўцамі, або пустыя). Магчыма, што далейшыя раскопкі выявяць наяўнасьць крывічоў далей на паўночны захад ад Вільні, Горадні, Пастаўшчыны і Дзісеншчыны і зблі-

вяць этнаграфічную мяжу між беларусамі і літоўцамі, існаваўшую ў мінуўшчыне, да сучаснай. Як-бы там ня было, трэба думаць, што ў некаторых мясцох уздоўж сучаснай этнаграфічнай беларуска-літоўскай мяжы ляжалі, як дапускае Г. Лаўмянскі незаселеныя пушчы. З цягам часу гэтыя пушчы калянізаваліся з абодвух бакоў — літоўскага і беларускага. Паўставалі мяшаныя абшары. Ня былі яны аднак гэткімі шырокімі, як думае Лаўмянскі, бо вузкасьць іх пацьвярджаюць раскопкі. Толькі на гэтых мяшаных абшарах літоўскае насельніцтва беларушчылася, бо было слабейшым ад беларускага лічбова, ня кажучы ўжо аб нізшасьці культурнай і палітычнай. Гэткім парадкам у сьвятле навейшых навуковых дадзеных выключаецца магчымасьць беларушчаньня ў мінуўшчыне суцэльных этнаграфічна літоўскіх абшараў. Там дзе літоўцы зьбеларушчыліся, яны напэўна былі меншынёю ў параўнаньні з беларусамі. Ужо гэта выключае магчымасьць залічаньня абшараў заселеных цяпер беларусамі-каталікамі да некалішніх этнаграфічна літоўскіх, а самых беларусаў-каталікоў лічыць зьбеларушчанымі літоўцамі.

Але калі прасачыць гісторыю пашырэньня ў Беларусі каталіцтва, дык і тады будзе ясным, што каталіцтва прыймалі і праваслаўныя беларусы, а ў XVII ст. нават масава. На прыкладах беларускіх магнатаў і баярства гэта выступае з асаблівай яснасьцю. А магнаты і баяры, перайшоўшыя з праваслаўя ў каталіцтва, заводзілі апошняе ў сваіх вялікіх земляўладаньнях з беларускім насельніцтвам. У канцы зусім ня выключана, а нават і пацьвярджаецца жароламі, што і ў 1387 годзе, калі быў каталіцкі хрост літоўцаў, мноства праваслаўных, а значыцца беларусаў, такжа перахрысьцілася ў каталіцтва. Гэткім парадкам каталіцтва пашыралася ў нас адразу ня толькі між літоўцаў, але і беларусаў. Шляхі пашырэньня каталіцтва на землях б. Вялікага Княства Літоўскага, прычыны гэтага зьявішча і ягоны абсяг зусім не прадстаўляюцца гэтак проста, як думаюць літоўцы, і таму залічваньне ўсіх беларусаў каталікоў да літоўцаў з паходжаньня ёсьць абсалютна безасноўным. І як ня можа апраўдаць літоўскіх пратэнсыяў да беларускіх земляў першая адмена гістарычнага аргуманту, гэтак сама ня можа іх апраўдаць і другая, толькі што разгледжаная.

Гэтак прадстаўляецца збольшага літоўская аргумантацыя. Трэба сказаць, што літоўскую старану ўвяло ў абмылку не ў малой ступені імкненьне мерыць "літоўскасьць" Вялікага Княства Літоўскага сучасным сэнсам гэтага слова. А тымчасам гэтыя два паняцьці літоўскасьці (даўней і цяпер) зьяўляюцца проста нясумернымі. Таму меў поўную рацыю праф. Конэчны, калі прапанаваў назваць тое, што было зроблена этнаграфічнымі жамойцамі (цяперашнімі "літоўцамі") у мінуўшчыне, "летуўскім", а не літоўскім! Толькі пры гэткім размяжаваньні гэтых тэрмінаў гісторыя "Летувы" атрымае правільнае асьвятленьне, якое выключыць і "гістарычнае" абгрунтаваньне літоўскіх пратэнсыяў да беларускіх земляў і зробіць для собскага народу зразумелым яго гісторыю. Калі зірнуць вокам на эвалюцыю навейшай літоўскай гісторыяграфіі, дык здаецца, што яна хоць і пад прымусам, але ідзе ў гэтым напрамку.

КАЛІ ЛАСКА, НЯ ЧЫТАЙ "БЕЛАРУСКАГА СЬВЕТУ" ЗАДАРМА!



Мікола Волацiч.

# У СПРАВЕ ХВАЛЬШАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭТНІЧНАЙ ГІСТОРЫІ.

(заканчэньне)

***

І ўрэшце Грынблят пераходзіць да свайго (а фактычна за Лаўмянскім) галоўнага доваду, нібы паказаная ім "этнічная" мяжа разьдзяляе два народы ды супадае з рэлігійным падзелам, а пайменна разьдзяляе каталікоў "ліцьвіноў" (чыт. жамойцаў) ад праваслаўных "беларусаў". Ен спасылаецца на распытваньні Экспэдыцыяй у насельніцтва аб тым, ці народная традыцыя каталіцкага насельніцтва помніць вунію. Аказваецца, што каталікі ў многіх вёсках вызначалі сваё каталіцтва "спрадвеку" ды адмаўлялі існаваньня традыцыі аб вуніі.

Грынблят далей высіляецца падмацаваць такія выказваньні некаторымі гістарычнымі матарыяламі аб распаўсюджаньні вуніі, ды заяўляе, што каталікі, якія ня ведалі вуніі, муселі быць "ліцьвінамі" — гэта значыць балтамі, бо "беларусы" нібы ўсе былі праваслаўнымі.

Ці тэорыя Грынблята мае хоць крыху праўдападобнасьці? Мы ўважаем яе за штучную, ненавуковую, тэндэнцыйную.

Перш за ўсё Грынблят сам прымушаны сьцьвердзіць: "сярод цяперашняга беларускага каталіцкага насельніцтва паўночна-заходніх раёнаў Беларусі пераважаюць славянскія (галоўным чынам беларускія) прозьвішчы" і падае шматлікія прыклады такіх прозьвішчаў. Жамойцкія прозьвішчы вельмі рэдкія.

Па другое, праваслаўе яшчэ ў 12 в. пераходзіла паказаную Грынблятам мяжу і шырылася ў Ліцьве і Лацьвіі. Археалягічныя раскопкі сьцьвярджаюць заняпад курганных магілаў крывіцкага тыпу ў Ліцьве ўжо на пераломе 12/13 ст. ст. Гэта паказвае, што ў названым часе адбылася ў Ліцьве шырокая хрысьцінізацыя. Якая? Абодвых абрадаў, заходняга і ўсходняга. Каталіцкая царква ў 1410 г. паводля бульлі папы Рыгора XIII (Булярум Францыскан. VIII, № 544) налічвала каля 20.000 вернікаў. Сто гадоў пазьней (1501) прывілей Аляксандра налічваў 29 парахвіяльных сьвятыняў, пайменна ў: Радоміне, Лідзе, Беліцы, Моўчадзі, Дубісе, Сьвенцянах, Лінгманах, Нямэнчыне, Слоніме, Уцене, Анікшце, Быстрыцы, Ракішках, Пабожышчы, Троках, Мэрэчы, Даршунішках, Даўгах, Гонядзі, Далістове, Трыцяне, Васілішках, Валожыне, Дубінзе, Маладзечне, Радашкавічах, Койданаве, Красным Сяле, Раміголе, Вільні.

З гэтага дакладнага пераліку каталіцкіх цэркваў і парахвіяў, мы бачым, што амаль палавіна іх прыпадае навонкі Грынблятавай мяжы. Такім чынам, калі-б Экспэдыцыя апытала каталіцкае насельніцтва Беларусі пад Менскам, пад Слуцкам, пад Беластокам і Ломжай, пад Маладэчнам а нават пад Віцебскам, Полацкам то ўсюды знайшла-б каталікоў "спрадвеку" няведаючых вуніі, а што за гэтым ідзе трэба было-б перасунуць жамойцкую мяжу амаль на ўсю Беларусь.

З другога боку Грынблят ня хоча чуць пра весткі, якія кажуць аб шы-

рокім распаўсюджаньні праваслаўя ў Ліцьве далёка на захад ад Грынблятавай мяжы. То-ж Ноўгарадзкая і Маскоўскія летапісы (ПСРЛ IV, 94-95; XVII; V, 242) апавядаюць, што ў самой Вільні ў 1387 г. (у часе Ягайлавага хросту) "палавіна" гораду была праваслаўнай!

Гэтаксама раскопкі ў Горадні (Н. Воронин, Древнее Гродно. Мат. и иссл. по арх. СССР № 41, 1954) і ў Вільні (Галубовіч, Крывы Горад, 1939 паполь.), выявілі праваслаўныя сьвятыні і іншыя памятнікі з XI і наст. стагодзьдзяў. Праваслаўныя знаходкі з XI-XIII вв. знойдзеныя пры раскопках замкавай гары ў Ваўкавыску (Тарасенко, Раскопки городишча "Шведская Гора" в Волковыске в 1954 г. Мат. по арх. БССР, I, 1957). Гэнрык Латыш (Хр. Лів. 65) успамінае аб праваслаўных цэрквах у Гэрцыцы. Вельмі праўдападобна, што праваслаўныя цэрквы былі ў Кукенойсе ўніз па Дзьвіне, дзе жыло літоўскае, гэта значыць крывіцкае насельніцтва, званае ў хроніцы "леттамі".

Аб праваслаўных цэрквах у Рызе можам з упэўненьнем гаварыць у канцы 13 в. На пачатку 14 в. Полацкі біскуп высьвячаў сьвятароў для праваслаўнай царквы ў Рызе (Русск. лів. акты № 370, 374). Аб існаваньні праваслаўнага насельніцтва ў Лівоніі гаворыць бульля папы Ганора з 24 II 1222 г. (Гіст. Рус. Мон. 46, №XII):

"Ад пачэснага брата нашага біскупа Лівонскай царквы мы даведаліся, што русіны, якія прыйшлі некалі жыць у Лівонію, грэцкага веравызнаньня, праклінаюць хрышчэньне латынніян, як агідную рэч, не шануюць сьвятаў і пастоў ды зрываюць шлюбы паміж нэафітаў. Таму, калі іх незразумеласьць ня будзе асьвятляцца, то, як гэта мы бачым з стараны, застаючыся пад скрытасьцю, будзе ўздымацца схізма грэкаў. Прапануем вам гэтую дзейнасьць русінаў спыняць сваёй апостальскай уладай, каб ня было спакусы для нэафітаў, а русінаў павучаць, каб адносіліся з павагай да лацініьнікаў".

Як бачым, што ня толькі ў канцы, але і на пачатку 13 ст. ды раней праводзілася ў Прыбалтыцы актыўная дзейнасьць праваслаўнай Царквы. Папа паклікаецца на старыну, як на прыклад такой-жа праваслаўнай дзейнасьці ў Прыбалтыцы, а гэта значыць, што яна праводзілася напэўна ў 12 ст.

Адносна Ліцьвы папа Урбан у 1267 г. пісаў у сваёй бульлі:

"Даведваемся, што русіны схізматыкі і ліцьвіны ды іншыя жыхары не аддаюць пашаны Богу, толькі пуста вымаўляюць Яго імя на раўні з татарамі, з каторымі праступна зьвязаны, часта нападаюць на Польшчу..."

Длугаш (X,481) праваслаўных ліцьвіноў бачыць ня толькі ў Ліцьве, але і ў Жамойці. Летапісы пішуць, што Вайшэлак, браты Трайняты і іншыя літоўскія князі былі праваслаўнымі. Гедымін арганізаваў Літоўскую праваслаўную мітраполію ў Наваградку. Альгерд жаніўся з дачкой Віцебскага князя і прыняў праваслаўе ды ўзнавіў Кіеўскую мітраполію, як літоўскую і ўсяе Русі ды вёў упорную барацьбу з Маскоўшчынай і мітр. Аляксеям за царкоўную дамінацыю. Ягайла, ягоныя браты, Кейстут і Вітаўт былі праваслаўнымі, а ў 1386 г. у часе паўторнага хросту ў Кракаве многія літоўскія князі адмовіліся ад яго, ссылаючыся на свой бізантыйскі хрост (Длугаш, 432).

Менш больш з тых часоў паходзіць запіс Энэя Сыльвія Пікаляміні (пазьнейшага папы Пія II) ад Яна Гераніма з Прагі, які каля 1394 г. быў каталіцкім місіянерам ў Троцкім княстве Вітаўта, у самым сэрцы Ліцьвы, ды пасьля свае спасьцярогі перадаў Энэю, пісаўшаму кнігу "Дэ Эўроп" (Аб Эўропе). Там Пікаляміні запісаў:



"Мова народу (літоўскага) славянская; вельмі вялікую прастору займае гэтая мова, і яна дзеліцца на розныя сэкты (рэлігійныя). Бо із славянаў адны належаць да рымскай царквы, як Далматы, Крааты, Карынты і Палякі. Іншыя належаць да блудоў Грэкаў, як Баўгары, Русіны ды многія зь Ліцьвіноў..."

Папа Баніфацы ў 1390 г. пасылаў адумыснага пасла, каб выведаць на месцы ў Ліцьве "якую веру вызнаюць Ліцьвіны", дадаючы, што яны найбольш злучаны з схізматыкамі русінамі, зь якімі што дня зыходзяцца ды ад іх прымаюць злачынныя блуды. Між іншымі і брат караля Кракоўскага (Ягайлы), князь Скіргайла зь іншымі сваімі братамі ды вялікім мноствам Ліцьвіноў належаць (да гэтай веры) ды названымі схізматыкамі падступна ахрышчаны" (СРП 3, 300). Дадайма яшчэ вестку Яна Пасыльгі (СРП, 3, 310) з таго часу аб рэлігійных дачыненьнях у Ліцьве:

"Каталіцкі біскуп — бедны, а рускі (праваслаўны) багаты ды мае даволі вернікаў, бо дзе адзін у літоўскай (каталіцкай) веры бывае ахрышчаны і становіцца хрысьціянінам, там найменш сотня яшчэ рускіх (праваслаўных) так, што найвялікшая частка ўсяго, што шматлікае і магутнае ў Ліцьве — ўсё рускае (праваслаўнае)".

Як бачым, мяжа Грынблята і Лаўмянскага распаўсюджаньня праваслаўя і каталіцтва на тэрыторыі Ліцьвы ня мае ніякага падмацаваньня. Так засяг каталіцтва, як і праваслаўя ня меў нейкай нават прыблізнай граніцы.

Далей паказьнік вуніі ня можа быць навуковым паказьнікам рэлігійных дачыненьняў з наступных меркаваньняў: 1) вунія пачалася толькі ў канцы 16 в., а распаўсюдзілася яшчэ пазьней — 17-18 ст ст.; 2) перад вуніяй праваслаўная Царква ў Ліцьве была апанована рэфармацыяй (кальвінізмам, арыянізмам, пратэстантызмам), зь якой наступна быў пераход у каталіцтва бяз вуніі.

Сучасьнік рэфармацыі Пётра Скарга запісаў, што ў 1596 г. у Наваградзкім ваяводзтве з 600 шляхоцкіх праваслаўных родаў толькі 16 перахавала веру бацькоў ды не перайшло на пратэстантызм, а 650 праваслаўных цэркваў забралі там арыяне (Русс. Ист. Биб. XIX, 214, 677, 975). "Трэнос" Сматрыцкага (1610) пералічае цэлыя дзесяткі знамянітых родаў літоўскіх праваслаўных, якія цераз рэфармацыю сталіся каталікамі. Зусім трапна пісаў Брыкнэр (Дзее культ. поль. II, 357): "трудна сёньня паверыць, што Скарга і праваслаўныя кажуць, што на Ліцьве і Валыні сотні родаў кідалі праваслаўе дзеля кальвінізму і антытрынітарства, што шляхціц нічым не супакоены, пераходзіў ад адной веры да другой, пакуль ня скончыў на каталіцтве".

Як бачым, "вунійны" довад Грынблята нічога не даводзіць у карысьць ягонай нібы "этнічнай" мяжы.

**
*

Грынблят сіліцца таксама падмацаваць сваю тэорыю балта-славянскімі элемэнтамі ў беларускай мове, якія нібы характэрныя на пагранічччы ягонай

"мяжы". Ізноў Грынблят ня хоча бачыць і чуць аб матарыяле выяўленым самой Экспэдыцыяй, што ў сучаснай жамойцкай мове на занятых крывіцкіх землях многа тэрмінаў гаспадарчага і культурнага кругу проста перанятых ад беларусоў, аб чым мы раней успаміналі. Далей Грынблят ня ведае належна беларускай мовы. Незразумелыя беларускія словы ён лічыць жамойцкімі, як напр. прымен, пошар, склют, дойлід, гіль. Прымен — сені ўжываецца таксама ва ўкраінскай мове. Пошар — паша, як зборны тэрмін на падабенства "дзетвара", "чамяра" і інш. Склют — калун, калоць. Дойлід — цесьля, ад "долата", значыць той, хто валодае долатам, як цесьля, што валодае цяслом. Гіль — авадзень ад слова "жаліць", калоць. З гэтага кораня (і)гол-ка, (і)гла.

Яшчэ дзіўней выглядае, калі Грынблят агульна-славянскія словы, як кубел, рупіцца, сёрбаць, лупы, дзірван, дразга, артай, каровіца і г. д. лічыць жамойцкімі. Магчыма, ён не знайшоў іх у расейскім слоўніку. Так, як Грынблят паступалі і тыя наіўныя дасьледнікі, калі незразумелыя імёны залічалі да жамойцкай мовы, хоць і ня рупіліся знайсьці іх разьвязку ў самай жамойцкай мове.

Усё гэта нічога ня мае супольнага з навукай.

Прыпісваньне жамойцкай мове "мазурэньня" і на гэтай аснове выводжаньне блізкасьці гутаркі в. Прывалкі ў Горадзеншчыне з жамойцкай вымовай — не знаходзіць падмацаваньня. Адкуль гэта ўзяў Грынблят, што жамойцы "мазураць"? Мазурэньнем называем зьяву, калі шыпячыя Ш, Щ, Ч, Ж вымаўляюцца як сьвісьцячыя С, Ц, З, або гэтыя апошнія, як шыпячыя. У жамойцкай мове ёсьць свае сталыя законы для сьвісьцячых і шыпячых і ніякай путаніны няма. Паводля гэтых законаў вымаўляюцца і славянскія словы. Ужо Карскі (II, 388) даводзіў, што ў розных беларускіх дыялектах на шырокай прасторы: у заходняй частцы, у Полаччыне, Пскоўшчыне, Віцебшчыне, Смаленшчыне спадзяванае Ч вымаўляецца як Ц: моц, цот, цэбар, цатыры, доцка і г. д. Але гэтая зьява нічога ня мае супольнага з жамойцкай мовай у в. Прывалкі, дзе маецца вось гэтая зьява "цоканьня".

Грынблят таксама тэндэнцыйна ўжывае назоў "літоўскі" у значэньні жамойцкі і там дзе яго разумелі інакш, як гістарычны назоў беларускага народу. Ведама, што афіцыяльна ўведзены Кацярынай II назоў "Белая Русь" тычыўся толькі земляў літоўскіх, занятых у 1772 г. — гэта ёсьць Віцебскай і Магілеўскай губерняў. Землі далейшых захопаў з 1793, а асабліва з 1795 г. называліся "літоўскімі". Гэтая намэнклятура ўтрымалася і пасьля царскай забароны (1840) называць губерні "беларускімі" і "літоўскімі". Такім чынам попісы насельніцтва, праводжаныя царскім урадам у палове 19 в. карысталіся раней уведзенай намэнклятурай, гэта значыць, пад назовам "літоўскі", "літоўская мова" разумелі мову насельніцтва зямель апошняга падзелу Ліцьвы. Вымоўным довадам ужываньня насельніцтвам "Ліцьвы" старых гістарычных назоваў у царскіх попісах 19 в. можа быць попіс 1837 г. паводля якога ў Віленскай губерні запісалася 26,106 чалавек КРЫВІЧАМІ. Іншыя пісаліся ЛІТОЎЦАМІ, палякамі або рускімі ў залежнасьці ад рэлігіі ("руская вера" — праваслаўе; "польская вера" — каталіцтва). Адсюль і прыклады Грынблята з попісу 1848 г. трэба разумець не паводле сягоньняшняй тэрміналёгіі, але народнай таго часу. Такім чынам "литовский язык" шматлікіх вёсак Віленскай губ. 1848 г. зусім не абазначае жамойцкай (балцкай) мовы насельніцтва, але сьведчыць аб ужываньні насельніцтвам гістарычнай тэрміналёгіі.



Аб гэтым сьведчыць і тая прыпіска да попісу 1848, якую так груба схвальшаваў Грынблят: "хотя жители показанных деревень употребляют между собою литовский язык, но они разговаривают по российски и по польски". Грынблят схвальшаваў сэнс гэтай прыпіскі, зьмяняючы "по-российски" на "по-белорусски". На падобных нібы дробных хвальшыўках базуецца Грынблятавая навука ў дачыненьні да "літоўскага" пытаньня.

Перакручваць тэкст дакуманту "по-россиски" на "по-белорусски" тое сама, што гаварыць аб савецкім чалавеку ў 19 веку. Народ гаварыў дома па свойму, па літоўску, гэта значыць паводля сягоньняшняй тэрміналёгіі — па беларуску, ведаў таксама мовы расейскую і польскую, як кожны сягоньняшні жыхар Заходняй Беларусі.

Гэтаксама ў выказваньнях людзей у часе апытваньня Экспэдыцыяй гучыць рэха старой "літоўскай" традыцыі: "Мы ўраджоныя ліцьвякі", "бацькі мае яшчэ па літоўску гутарылі. Даўней усе палітоўску, у Дамашах і асабліва ў Рымашах... у нас толькі па літоўску гутарылі". "Мой бацька быў чысты ліцьвяк, а мяне ўжо можна прадаць па літоўску, нічога не панімаю".

Тут наглядаецца цяперашняе запутаньне назоўнай тэрміналёгіі, калі гістарычным назовам Ліцьва, ліцьвак абазначаецца ўжо жамойцкі народ, ды вядзецца прапаганда, што гэты апошні ёсьць гістарычным прадаўжэньнем Вялікага Княства Літоўскага, а гістарычным, праўдзівым "ліцьвяком" ці іх дзецям прышлося называцца чужым ім назовам "беларус".

Бо-ж трудна сабе ўявіць, каб адбыўся ў кароткім вельмі часе, бяз ніякіх перасяленьняў, школаў, бяз прымусу такі асыміляцыйны працэс, што бацька "быў чыстым ліцьвяком", а сын ні слова не разумее, прычым гэта прыклад не адзінокі, але ўся вёска і аколіца гаварылі мовай бацькі.

І тут відаць дабра тэндэнцыйнасьць Экспэдыцыі з Грынблятам разам. Замест аб'ектыўна вывучыць усе ўмовы моўных і культурных дачыненьняў і пераменаў, іх прычыны, заблытанасьць тэрміналёгіі і г. д. Экспэдыцыя з Грынблятам задаволілася наіўнымі апавяданьнямі людзей!

Сказанае намі зусім не касуе існаваньня сярод беларусаў жамойцкіх старых перасяленцаў, якія дасюль перахавалі мову бацькоў і саветы ім паадчынялі нацыянальныя школы ў БССР.

**
*

Было-б няпоўным закончыць нашыя заўвагі да артыкулу Грынблята, калі-б мы не далі адхіленьня існуючай тэорыі аб тоесамасьці Ліцьвы-Жамойці, так падтрымліванай саветамі ў іхняй какетызацыі жамойцаў коштам беларускай тэрыторыі і насельніцтва.

Так зв. "тэорыя аб жамойцкім паходжаньні Ліцьвы" сягае сваімі карэньнямі ў глыбокую мінуўшчыну. Пачалося ад лягенды, выдуманай дзесьці на пачатку 15 в. няведамым аўтарам, аб рымскім паходжаньні Ліцьвы. Гэтая лягенда запісаная ў Быхаўца ды ў іншых літоўскіх летапісных сьпісках. Яе паўтарыў польскі гісторык 15 в. Длугаш. Яе разьвіваў Міхалён Ліцьвін, падкрэсьліваючы некаторую блізкасьць жамойцкіх слоў да лацінскіх. Тэорыю гэту паўтарыў польскі гісторык 16 в. Кромэр.

Гэтая лягенда мела за сваю мэту давесьці "вышэйшасьць" і "шляхатнейшасьць" літоўскага баярства ад польскай шляхты, якая прабавала ў Гародле (1413) зьблізіць да сябе ды "ўзвысіць" літоўскае баярства прыймом яго да сваіх гэрбаў.

Крыніцай лягенды было апавяданьне рымскага геаграфа і гісторыка Страбона аб Палямоне, каралю Гэнэтаў, які жыў у Пафлягоніі і ўславіўся сваімі чынамі, а пасьля яго сьмерці Гэнэты мелі перасяліцца ў Італію, даючы пачатак рымскай дзяржаве.

У літоўскай вэрсыі Палямон, родзіч Нэрона, уцёкшы ад самавольства Нэрона ў паўночныя краіны. Зь ім падалося 500 знатных рымлянаў зь сем'ямі. Пераплыўшы акіян, яны высадзіліся ў вусьці Нёмана і пасяліліся ў ягоных прытоках. З часам рымскія насельнікі размножыліся ды занялі прастору на захад Дзьвіны. Ад патомкаў Палямона паўстаў народ літоўскі і літоўская шляхта. Самае слова ЛІТВА лягенда тлумачыць ад лацінскага "літус" — бераг і "туба" — труба, быццам лацінскае "літустуба", якое народ зьначыў на "Ліцьва".

Летапіс Быхаўца раскрывае замысел гэтай лягенды, супрацьстаўляючы польскую шляхту, простага паходжаньня, якая ўзяла гэрбы ад чэскіх паноў, літоўскай шляхце:

"Мы жэ шляхта старая рымская і продкі нашы з гэтымі гэрбамі сваімі дашлі да тых панстваў, у каторых яны ўсяліліся... і не хацім ніякіх новых гэрбаў, но дзяржымся сваіх гэрбаў старых, каторыя нам аставілі нашы продкі".

Рымскую лягенду аб паходжаньні Ліцьвы з "навуковым" падмацаваньнем быццам блізасьці жамойцкай мовы да лацінскай, замацаваў Альбэрт Віюк Каяловіч у 17 в. у сваёй "Гісторыі Ліцьвы", дадаючы, што Ліцьвіны паходзяць ад "гэрманскага" племя Гэруляў, удзельнікаў у заваяваньні разам з Готамі заходняй Эўропы і Рыму (аб чым успамінае Пракоп з Цэз. Вайна з гот. VI, 4, 14, 15, 22; VII, 13, 34; VIII, 26, 28, 30, 33). Пасьля яны занялі Прыбалтыку і далі ёй рымскую культуру.

У падобным духу пісалі Лукас Давід і Сымон Грынаў, разьвіваючы жамойцкую міталёгію. У духу мітаў і фантазыяў напісаў Нарбут сваю шматтомную Гісторыю Ліцьвы (1835).

У такім-жа лягендарным духу стала разьвіваецца тэорыя аб тоесамасьці Ліцьвы-Жамойці сярод жамойцкіх аўтараў. Адным зь першых быў Сымон Даўкант, выдаўшы ў Амэрыцы (1893) Гісторыю Ліцьвы да 1572 г., перапоўненую рознымі недарэчнасьцямі.

На пачатку XX веку жамойцкія вучоныя Басановіч і Буга старыя фантазыі аб першабытным расьсяленьні балтаў і тэорыю тоесамасьці Ліцьва-Жамойць прыадзелі ў "навуковую" вопратку. Басановіч, прыраўняўшы жамойцкую культуру з культурай Тракаў (аб якой сяньняшняя навука амаль нічога ня ведае), стварыў тэорыю аб трацкім паходжаньні балтаў ды разшырыў першабытную жамойцкую тэрыторыю на ўсю этнаграфічную Беларусь. Буга, лінгвіст, тэорыю Басановіча падмацаваў хвальшывай інтэрпрэтацыяй назоўніцтва.

Жамойцкая "навуковая" фантазыя знайшла падтрымку іншых народаў. Вучоныя польскія ці апалячаныя беларусы на пачатку XX в. стараліся "навукова" давесьці, што "Северо-западный край" — землі Вялікага Княства Літоўскага, якія Расея імкнулася зрусыфікаваць, не зьяўляюцца славянскімі, але балта-славянскімі, а як такія твораць культурна, моўна, антрапалягічна і духова зусім самастойную ды іншую этнічную групу, чымся Маскоўшчына. У такім кірунку напісаны працы Кіркара, Тышкевіча, Крывіцкага, Шукевіча, Яроцкага, Талько-Грынцэвіча, Развадоўскага і інш.

Слабое тагачаснае вывучэньне дагістарычнай славянскай культуры ў археалягічным і этнаграфічным матарыяле спрыяла балта-славянскай тэорыі, ахвярай якой палі і расейскія вучоныя, як Пагодзін, Сабалеўскі, Пакроўскі, Шахматаў, Сыпіцын і інш. Славянам прыпісвалася вельмі позьняе паяўленьне ва ўсходняй Эўропе дзесьці каля 7-9 веку пасьля Хр., а культурныя знаходкі ранейшага пэрыяду прыпісваліся балтам, фінам і іншым народам. Гэтаксама і Ліцьва разам з Яцьвезю, Прусамі, Голядзю залічалася да балцкага, неславянскага кругу.

На гэтым шляху пайшлі і заходнія вучоныя, як Нідэрле, Васмар, Шухарт, Мэйе, Гірт, Георгіеў і іншыя. Тэорыя гэтая сталася пануючай па сёньняшні дзень.

І ня толькі старая фантазыя сталася "навукай" нашых дзён, але спарадзіла і яе ажыцьцяўленьне. Немцам яшчэ ў першую вайну (1914-1918) было патрэбным захапіць Прыбалтыку, як сваю калёнію, дык яны практычна падтрымалі жамойцкую лягенду аб нібы "вялікай" іхняй нацыі між Дзьвіной, Нёманам і Нарвай з сталіцай у Вільні. Шырэй расьцягнуць межы саталітнай жамойцкай дзяржавы на ўсю Беларусь было нельга, бо немцам было пільна заключыць сэпаратны мір з Масквой. Так нарадзілася 16 лютага 1918 г. жамойцкая дзяржава з сталіцай у Вільні ды ахапляючая беларускія землі Віленшчыны, Трокаўшчыны, Горадзеншчыны, Лідчыны, Наваградчыны, Беласточчыны і Сувальшчыны.

На пярэдадні другой вайны (1939-1945) Гітлер таксама дагаварыўся з Сталінам аб "нямецкіх інтарэсах" у Прыбалтыцы ды лічыў сваёй дамэнай і жамойцкую дзяржаву ізноў з сталіцай Вільняй, адабранай Пілсудзкім у 1920 г.

І Масква не адставала ў агрэсіі ды дзяленьні крывіцкіх зямель на карысьць сваю і суседніх народаў, каб іх мець такой цаной на сваім баку. У 1918 г. у Берасьці быў падпісаны дакумант аб прызнаньні жамойцкай дзяржавы, творанай Немцамі. Пазьней, калі ёй не ўдалося сілай захапіць Прыбалтыкі, пачала зманьваць балцкія народы падаркамі беларускай тэрыторыі.

***

На заканчэньне нашага артыкулу зьвернем яшчэ ўвагу на канцовы "довад" Грынблята — гэта на тое, што жамойцкі назоў "гудас", "гудаі", якім яны называюць крывічоў (беларусаў), не адносіцца быццам да беларусаў, але да "ўсходняй галіны Яцьвезі", якая займала тэрыторыю між Нёманам і Вільлёй ды Сувальшчыну, ды называлася Судавай, Жудвай, Дайновай. Інакш кажучы довад з "гудас" мае падмацаваць фікцыйную "этнічную" мяжу Грынблята між балтамі і беларусамі, паколькі прынята ўважаць Яцьвезь за балцкае племя.

Што такое Яцьвезь ? Ці Яцьвезь запраўды балцкае племя, а калі так, то якія на гэта довады?

Пра Яцьвезь гістарычная навука ведае нязвычайна мала. "Повесть врем. лет" і іншыя "рускія" летапісы даюць толькі сам назоў "ятвяты", "ятвезе", "ятвязе" у зьвязку з ваеннымі паходамі на гэтае племя Уладзіміра Кіеўскага 983 г., Яраслава 1038, Яраслава Сьвятаполкавага 1112, Васілька 1248 і некаторымі іншымі падзеямі. Успамінаюць Яцьвезь "Слова аб паходзе Ігара", "Слова аб гібелі рускай зямлі" і іншыя крыніцы. У польскіх крыніцах таксама кароткія і няясныя зацемкі аб гэтым племені. Кадлубак (IV, 19) называе іх "полексіяні" ды ўважае іх за Готаў: "Палексіяны гоцкага або пруская роду", кажа ён. За Готаў іх лічыць Багухвал (Хрон. пр. Пол. 41). Длугаш (III, 223, VII, 770) і Кромэр і, IV, 5) называюць гэтае племя "яцвінгі" (у лац. мове). Длугаш кажа, што "род яцвінгаў па народнасьці, мове, звычаях, абрадзе, веры многа што мае супольнага з Ліцьвінамі, Прусамі і Жамойцамі". У іншым месцы ўдакладняе, што "народ яцьвінгаў мае мову зусім блізкую паводля гучаньня і зразумленьня да прускай і літоўскай". Кромэр пярэчыць гэтай вестцы, кажучы: "апавядаюць, што яшчэ існуюць астаткі іх (яцьвягаў) разьцярушаны ў Ліцьве і Русі, каторыя гутараць мовай рознай ад царкоўнаславянскай і літоўскай". Маюцца яшчэ голыя назовы ў нямецкіх хроністаў ды ў папскіх бульлях гэтага племя. Усё гэта за мала, каб магчы вытварыць праўдзівы абраз, што такое Яцьвезь. Тэрыторыя гэтага племя, паводля гістарычных так скупых вестак, падмацованых тапанімікай з выразнымі назовамі тыпу "Яцьвезь, Яцьвеск" абыймае амаль усю заходнюю Беларусь ад Бугу і Нарвы на захадзе да Беразіны на ўсходзе, ад Вяльлі на поўначы да Прыпяці і далей на Валынь на паўдні. Адразу родзіцца думка, што гэты нібы "балцкі" народ на тэрыторыі куды большай ад усёй Прыбалтыкі, які так даваўся ў знакі сваімі нападамі Польшчы, Кіеўскай і Валынска-Галіцкай Русі, Крыжаком раптам счэзнуў з паверхні зямлі, што ўжо ў 13-14 вв. няма аб ім ніякага сьледу, а гісторыкі 15-16 ст.ст. прымушаны рабіць вучоныя канструкцыі, каб даць адказ, што такое Яцьвезь. У так кароткім часе маглі засыміляваца адзінкі, але ня мог засыміляваца вялікі народ ці племя. Жамойцкія перасяленцы ў Ліцьве, як праўдзівыя этнічныя факты, пературывалі з сваёй мовай і этнічнымі асаблівасьцямі аж да нашых часоў, і ніхто ня пярэчыць існаваньню жамойцкіх пасёлкаў і паасобных сем'яў на тэрыторыі Крывіччыны-Беларусі. Жамойцкае насельніцтва ў Прусах, міма ўсіленай германізацыі, пературывала да 19 веку, а нават у 20 веку пры Гітлеры яшчэ можна было сустрэць выразныя сьляды жамойцкага насельніцтва ў паўночна-ўсходняй частцы Прусаў. Этнічных фактаў нельга сьцерці за адно-два пакаленьне. А тут, у дачыненьні да Яцьвезі, мы ня маем ніякага доваду ані з 12 ані 13 ці наступных вякоў, што на тэрыторыі заходняй Беларусі існавала нейкае не славянскае племя. Наадварот, усе сьляды так гістарычныя, як археалягічныя і этнаграфічныя гавораць праціўнае: што на ўсёй так зв. яцьвязкай тэрыторыі панавала славянская культура. Успомнім часы місіянера Бруна, які згінуў у 1009 г. іменна ў Яцьвезі, а апісаньне яго дзейнасьці і сьмерці (Мон. Пол. Гіст. I, 229) паказвае паводля іменаў і абстаноўкі, што дзейнічаў ён і згінуў з рук славянаў, а не балтаў. Таксама названыя некаторыя яцьвязкія князі ў Гіпацыяўскай летапісі (ПСРЛ II, 182) маюць славянскія імёны. У агульным мы



ня маем ніводнага выразнага доваду на тое, што яцьвягі былі не славяне. Прыраўнованьне мовы і культуры, веры і г. д. яцьвягаў да ліцьвіноў і прусаў, як гэта робяць Длугаш і Кромэр — нічога ня сьведчаць, бо пытаньне Ліцьвы і Прусаў дасюль належна ня выясьненае, ды ўсё паказвае, што гэта былі славянскія плямёны, а калі так, то прыраўнованьне яцьвягаў да іх ня пярэчыць іх славянству.

Яцьвязкая прастора характэрная целапальнымі курганамі, пераважна круглай канструкцыі зь вялікай колькасьцю каменьняў у сярэдзіне ў выглядзе крушні, у якой знаходзяцца попельніцы чыста славянскага тыпу. Здараюцца такія каменныя курганы з целапалажэньнем — довад двухабрадавасьці ў паасобных сэктах. Курганная культура яцьвязкай тэрыторыі сягае ў глыб бронзавай пары перад Хр. ды трывае нязьменна аж да гістарычных часоў 13-14 ст. ст. н. э. Культура гэтая мае сувязі з паморскай культурай тыпу лужыцкага (L. Luka, Cmentarzysko kultury Luzyckiej w Czarnkowie; B. Kostrzewski, Cmentarzysko z okresu rzymskiego w Koninie) ды, як сьцьвярджае дасьледнік, як К. Энгель (Die Kaiserzeitlichen Kulturgruppen, 18) з курганнай культурай крывіцкай тэрыторыі. Яна сягае таксама ў Прусы да мазурскіх вазёраў, абдымаючы тэрыторыю Голядзі (Галіндыя). Важным адмоўным паказьнікам, што Яцьвезь і Голядзь ня маюць нічога супольнага з жамойцкімі курганамі, ёсьць той факт, што на яцьвязкай тэрыторыі ня знойдзена пахавальнай культуры тыпу балцкага — гэта ёсьць ямных шкілетных магілаў з тыповым балцкім матарыялам. Каменныя курганы з розных пэрыядаў былі дасьледываныя ў Дзельніцы (др. Пузінасам і Кулікаўскасам), у Чарнакоўшчыне, Асаве, Жывой вадзе, (Будинский, Арх. розыскания в Гродненской, б. Августовской, Сувальской и Ломжинской губ. Пам. кн. Сувальской губ. 1875), у Рачках, Плацічне (La Baume u. W. Gronau, Das Graeberfeld von Raczki, Krs. Suwalki, Altpreussen 1941, H. 4, 5; W. Gronau, Ausgrabungen an der Grenze Ostpreussens, Germonen-Erbe 1942, H. 7) Юдзішках, Казароўцы каля Драгічына, Грыневічах каля Бельска, Баргалове каля Аўгустова (J. Marciniak, Dwa cmentarzyska cialopalne z okresu rzymskiego w Barglowie Dwornym i Judzikach w pow. Augustowskim. Kurier lit. nauk. Nr. 31; Z. Szmit, Cmentarz latensko-rzymski "Kozarowka" w Drohiczynie nad Bugiem. Wiad. Arch. VIII, 1923; Groby z okresu latenskiego i rzymskiego. Wiad. Arch. VI, 1921, IX, 1924; Sprawozdanie z poszukiwan arch. w Hryniewiczach, Wiad. Arch. VII, 1922), у Растолтах, Кутаве, Рэпніках, Паўлах, Крыўцы, Катлоўцы, Ласінцы (C. Engel, Die ostmasurischen Huegelgraeber bei Reuschendorf, Kr. Lyck, Mannus 1932; K. Jazdzewski, O kurhanach nad gorna Narwia, i o hutnikach z przed 17 wiekow, Z otchlani wiekow, 1939, z. 1-2) у Высокай каля Сэйнаў, Прудзішках каля Сувалкаў, у Ліпінах каля Марыямполя (S. Krukowski, Cmentarz cialopalny bez popielnic w Wysokiem, Swiatowid XI, 1913; O. Kleemann, Ein Voelkerwanderungszeitliches Graeberfeld in Sudauen, Altpreussen 1942, VII; M. Alseikaite-Gimbutiene, Die Bestattung in Litauen, Tuebingen 1946, 80-84).

З існуючай археалягічнай літаратуры, абапёртай на фактным матары-

яле, ня маем ніякіх довадаў, што на яцьвязкай тэрыторыі бытавала нейкае племя з культурай супольнай да балцкіх плямёнаў. Гэтаксама ня маем ніякіх этнаграфічных і гістарычных сьлядоў іншых, як толькі славянскія. Уся гэтая прастора пакрытая тапаграфічнымі славянскімі назовамі, якія пераважна зьвязаны з дахрысьціянскай верай. Некаторыя назовы, як Котра, Індра, Скідэль, Лаша і інш. былі не зразумелыя для лінгвістаў, дык залічаліся да "балцкай" групы. Але ці гэтыя назовы знаходзяць разьвязку ў мове балтаў? Ясна, што не. Гэта культовыя назовы ў розным дыялектным славяскім зыначаньні: Індра, Інтуркі, Ятра, Ятрава і г. д. — ад боства Індра, або Ярыла боства маланкі і ўрадлівасьці, якое ў залежнасьці ад прыстаўных пачатковых гукаў вымаўлялася па рознаму, як Водра, Ветра, Годара, Котара і г. д. Скідэль — або Сканда, Скудзь, Скуда — боства з ваеннага славянскага пантэону. Назовы гэтага тыпу шырока распаўсюджаны па ўсёй славянскай тэрыторыі, і стаіць адкрытай праблема, што так зв. Скіфы — гэта старая славянская група, дарма, што залічаны яны да розных іншых народаў дзеля інтэпрэтацыі назоўніцтва і некаторых словаў-глёсаў у старой літаратуры. Ніхто з салідных вучоных (хіба толькі тыпу Грынблята) на такім сумліўным матарыяле, як некалькі незразумелых назоваў ня можа сказаць, што Яцьвезь — гэта "балцкае" племя. Дзе-ж тут іншыя довады? Дзе паказьнікі этнаграфічныя: мова, абычаі і звычаі, абрады, прылады працы і быту, вопратка, арнамэнтыка, стравы, музыка, будаўніцтва? А ўсе яны на яцьвязкай тэрыторыі — чыста крывіцкія, беларускія. А дзе-ж гістарычныя довады? Дусбург (III, 202) гаворачы аб Судавіі — гэта ёсьць аб Яцьвезі, кажа: "баяры Судавіі ёсьць рускага роду" — гэта значыць праваслаўныя. Гэтаксама імпэратар нямецкі ў дакуманце з 1337 г. называе паўночную прынёманскую частку Судавы — Русяй. У ЖЫЦЬЦІ біскупа Бруна, які згінуў у 1009 г. "на пагранічы Прусаў і Русі" (Дзітмар, 176) гаворыцца, што прыбочны Бруна манах Бэнэдыкт яшчэ раней навучыўся славянскай мовы, каб быць перакладнікам на гэтую мову бп. Бруна (Закрэўскі, Балеслаў Харобры, 214, папольску). Кадлубак (III, 19) называе князя Драгічынскага "рускім" (зн. праваслаўным), а Драгічын у той час уважаўся за сталіцу Яцьвезі. Ва ўмове Ягайлы і Койстута з Крыжакамі ў 1379 г. гаворыцца:

..."gemachit haben cynen Fride czwisschen etzlichen unsern landen der Rusen unde eczlichen iren landen zcu Prusen mit sulchir it unde beczeichenunge das unsir Landt der Rusen, das an dem teil der Memmil gelegen ist kegin dem Prusen also Wilkewitzk, Saras, Droyczin, Melnik, Belitzk, Brisk, Camentz und das Landt Garten Fride haben sullen..."

Дзе-ж тут довады на неславянскасьць Яцьвезі? Дасюль ніхто не падаў ніводнага паважнейшага гістарычнага доваду на "балцкасьць" яцьвягаў, а галоўная апора такіх цьверджаньняў знаходзіцца на "довадах" лінгвістаў, якія дасюль знаходзяцца ў поўным тупіку дзеля сваёй дагматычнай засьлепленасьці.

Такім чынам уся аргумантацыя і канструкцыя Грынблята, што яцьвягі "балты" вісіць у паветры, як звычайная выдумка.



Іншая зусім рэч, што яцьвягі маглі называцца і, праўдападобна, называліся рознымі іншымі імёнамі, як ГУДЗІНЫ, ГУДЫ, СУДАВЫ, ДАЙНОВА, РУСЬ, КРЫВІЧЫ ў залежнасьці ад часу ды ад розных сэктаў. Ужо самое слова ЯТВІНЫ, ЯЦЬВЕЗЬ, ЯДЗЬВІНЫ, ЯТВА і г. д. ёсьць этымалягічна аднароднае з ГУДЗІНЫ, ГУДЗІЧЫ, ГУДЗЬВА, ГУДЫ, ПАДЗЯВА, БУДЫ, БУДЗІНЫ, БУДЗЬВА, БУДАРЭШ, БУДЗІШЫН, ВЕНДАВА і г. д. паколькі тут маем дачыненьне з рознымі прыстаўнымі гукамі да выхаднага "ІНДУ-ВЕН", або "ІНДУ-ВЕЗЬ" (ІНДУ-ВІГ) складанага рэлігійнага імя боства "(г)інд" і "вен" або "віж". Прычым першая частка абазначае Водана, а другая Вішну ў індаэўрапэйскай міталёгіі. Такім чынам ЯЦЬВЕЗЬ аб'ядноўвала фактычна два галоўныя плямёны: вызнавальнікаў Водана або Гудана і вызнавальнікаў Вішны, або Восі (Віга). Маса тапаграфічных назоваў на яцьвязкай тэрыторыі падмацоўваюць наша цьверджаньне, як Гудзіны, Гуды, Гуты, Гудзялі, Гута, Гудагай і г. д. ды Візна, Вежа, Віж, Вожа, Гожа, Божа і г. д. з другога боку. Такім чынам нічога дзіўнага ў тым, што старыя польскія крыніцы называюць Яцьвезь Гудамі, ці Готамі, а грэцкія аўтары (Гэрадот, Пталямэй) Вудзінамі называюць вялікі народ на поўнач ад Палескіх балотаў. Гэтаксама назовы ЖУДВА, СУДАВА ёсьць аднародныя з Гудва, Гудава (старыя назовы Жыдва, Зютва, Зютава, Седава) пры афрыкатах Ж, З, С. І назоў ДАНОВА, ДАЙНОВА аб якім кажа дакумант Мендаўга з 1259, што Данова інакш называецца Яцьвезь, сьведчыць, што жыхары гэтай прасторы былі паклоньнікамі Водана, або Водара. Сюды адносяцца і такія лінгвістам незразумелыя назовы, як Індура, Інтуркі, Ятра, Котра, Індра, Ядра — адназначнікі таго-ж боства, у гіндускай міталёгіі — Індра.

Падсумоўваючы сказанае, мы бачым, што Грынблят, ня мае ніводнага аргуманту, адносна балцка-беларускіх дачыненьняў, які-б мог супрацьставіцца навуковай крытыцы, а гэта значыць, што ягоная тэорыя, — гэта прадаўжаньне таптацца на месцы вакол старых фантазыяў.

---

**Андрэй Александровіч**

## ДЗЕ-Б Я НІ БЫЎ

*Мне сьняцца сны аб Беларусі.*
*Янка Купала*

**Дзе-б я ні быў, сябры мае,**
**Што-б ні рабіў — перад вачыма,**
**Як праз туман густы, устае**
**Мая радзіма.**
**Дзе-б я ні быў, што-б ні рабіў,**
**На поўначы, на ўсходзе —**
**Край, дзе радзіўся, дзе любіў,**
**З вачэй маіх ня сходзіць.**
**Куды мой човен ні прыб'е,**
**Дзе я ні апынуся —**
**Адно заўжды, сябры мае,**
**Мне сьняцца сны аб Беларусі.**

**В. Адамчык**

# У ВАГОНЕ

## Апавяданьне

—Гэй, чалавек, а хто дзьверы зачыняць будзе? — гукнуў па[illegible]ле васпаваты пасажыр у суконнай марынарцы і перавярнуўся на другі бок. — Не выпускайце духу, не лета-ж на дварэ, — бубніў ён, уткнуўшыся тварам у лаўку.

Я паслухаў і вярнуўся быў зачыніць дзьверы, але знадворку валам павалілі людзі, і каб не страціць месца, я прысеў на пустую яшчэ лаўку тут-жа з праходу. Насупраць мяне ляжаў той васпаваты пасажыр у суконнай марынарцы.

—Нанесьлі холаду, ліха іх матары, — не ўціхамірваўся ён.

У вагон тым часам заходзілі людзі, гулка тупалі ў парозе, аббіваючы сьнег, вешалі на кручкі сеткі з абаранкамі, батонамі, скідалі з плячэй мяшэчкі, клалі на палічкі клункі, гаспадарчыя сумкі, напакаваныя рознай размаітасьцю.

У мяне пад нагамі стаяў ужо лазовы кошык, завязаны зялёнаю хусткаю. Яго нехта незнарок заварушыў і ў ім закудахтала перапалоханая курыца.

Дзябёлая жанчына ў чорным вышываным кажушку звальвала каля мяне клункі, пустыя бітончыкі з-пад малака і гукала дзесьці ў парог:

—Янечка, ідзі сюды.

Падышла чарнявая дзяўчына год васемнаццаці, сьціплая, з глыбокім спалохам у сініх вачах.

Жанчына ўмасьцілася ад сьцяны, адсунуўшы мяне на самы край лаўкі: вельмі-ж нязручнае месца ў вагоне прыгараднага цягніка, асабліва ў суботнія ці нядзельныя дні.

У вагоне ўжо ня было вольных месц, а людзі ўсё ішлі, узьнімаючы мітусяніну і гоман, несьлі з сабою ветраніну і холад, зычна сьмяяліся, гукалі адзін аднаго. Заторылі праход, зьбіліся ля дзьвярэй, але невядома адкуль браліся яшчэ.

—А гэта што робіцца? — нізенькі вастраносы хлапец у зашмальцаванай ватоўцы тармасіў васпаватага пасажыра. — Расьцягнуўся, як дома на печы.

—А ліха тваёй матары, — вылаяўся васпаваты і падкурчыў ногі.

—Глядзіце на яго, — вытрашчыў хлапец вочы. — Лаўку закупіў ці што.

Пасажыр падняў васпаваты твар, чырвоны і злосны, але змоўчаў і на волі адсунуўся да сьцяны, потым адумаўся і ўскіпеў на хлапца:

—А ў цябе, браток, голас, — і зарагатаў, — як у таго салаўя, што з гарою коней душыць.

Хлапец ці то не хацеў, ці то не знайшоў што сказаць, ціхенька паклаў на палічку нешта загорнутае ў газэту і гэтак-жа ціхенька прымасьціўся на край лаўкі.

—Садзіцеся, дзядзька, чаго стаяць будзеце, — адсоўваючыся далей ад васпаватага, запрашаў хлапец чалавека ў выцьвілым плашчы і ў бурках з глыбокімі самаробнымі бахіламі.

—Што праўда, то праўда, — азваўся чалавек, і на яго худым няголеным твары мільганула ўсьмешка. Яго віславухая шапка была зацярушана сьнегам



сьнег раставаў і буйнымі кроплямі вады сплываў за каўнер.

Чалавек расшпіліў плашч, ні то ад гарачыні, ні то, каб было вальней, але шапку не атрос і, яшчэ невядома чаго памарудзіўшы, сеў на лаўку, выняў з кішэні пачак танных папяросаў, закурыў, са смакам глытаючы мяккі тытунёвы дым.

Вагон раптам здрыгануўся, зарыпеў — цягнік рушыў. Глуха застукалі колы, і за вокнамі замільгалі станцыйныя ліхтары.

У вагоне людзі ажывіліся, павесялелі, пабайчэла іх гутарка, пазванчэў сьмех. Густа задымілі папяросы. Сіні дым лёгка плаваў пад стольлю. Ад яго пяршыла ў горле, браў кашаль.

—Кураць, каб на іх шэрсьць курэла...— азвалася дзябёлая жанчына ў чорным вышываным кажушку. — На п'янства, нябось, ёсьць управа, а чаму-ж гэтых курцоў не караюць. Гарэлка, кажуць, падаражэла, — сказала яна з нейкай крыўдай і змоўкла.

—Вы кажаце, гарэлка... — плюючы на далонь і тушачы недакурак, загаварыў чалавек у віславухай шапцы. — Гарэлка да сораму і да бяды даводзіць.

—Дзіва што, — у гутарку кінуўся вастраносы хлапец. — Ці чулі, што днямі ў Койданаве чынілася. Пад п'яную руку брат на брата з нажом кінуўся!..

—Няхай крые Бог, няхай крые... — заківаў галавою чалавек.

—Дзіва што, п'яны... — з нейкім ужо гонарам, што яго апавяданьне зацікавіла ўсіх, сказаў вастраносы хлапец.

Гутарка пра забойства толькі распачалася і пэўна надоўга, але тым часам нізенькая праваднiца ў чорнай шынелі і ў чорнай вушанцы, што гэтак хораша пасавала да яе дробненькага бялявага твару, праціскаючыся ў другі канец вагона, аб'явіла:

—Спадарыні і спадары, падрыхтуйце білеты, будзе праверка.

Сьледам за праваднiцай з абшарпаным цыратавым партфелем пад пахай ішоў чыгуначнік, малады і пад вусікамі.

—Ці не рэвізор часам? — запыталася дзябёлая жанчына ў чорным вышываным кажушку.

—А вось яшчэ адзін, — хлапец паказаў вачыма на высокага і тонкага чыгуначніка ў акулярах, які толькі што ўвайшоў у вагон.

—Ды іх аж два... — зьдзівілася яна.

—Вы цётка, як маленькія, — сарамяжыў жанчыну хлапец.

—Адзін правярае з аднаго канца вагона, другі з другога.

—Ага-а-а, — цягнула жанчына, так, відаць, і не разабраўшыся, што да чаго.

Да нашай лаўкі падышоў рэвізор, строга бліснуў акулярамі і, нічога ня кажучы, працягнуў да мяне руку. Я падаў білет. Рэвізор спрытна шчоўкнуў кампосьцерам, вярнуў білет і гэтак-жа спрытна і моўчкі працягнуў ізноў руку.

Дзябёлая жанчына зьдзіўлена паглядзела спачатку на руку рэвізора, потым яму ў твар і закапашылася ў клунках.

—Мамачка, білеты ў мяне, — саромеючыся невядома чаго, дзяўчына падала білеты рэвізору.

—Усіх папярэджвалі, здаецца, а вам і не ў галаве, што білеты правяра-

юць, — суха бліснуў акулярамі рэвізор. Ен меўся сказаць нешта яшчэ. але тым часам пасажыр у выцьвілым плашчы і віславухай шапцы, борзда падняўся з лаўкі і, абвёўшы ўсіх вясёлымі вачыма, падаў рэвізору дбайна складзены пучок білетаў.

—А гэта што яшчэ? — гыркнуў рэвізор. — Няхай яны застаюцца вам, а мне пакажэце той, які належыць, — і ён вярнуў білеты.

Зьбіты з панталыку пасажыр чмыкнуў носам, пакруціўся на месцы, як сам ня свой, паволі апусьціўся на лаўку і дрыжачымі рукамі пачаў тасаваць білеты. Можа якую хвіліну пасядзеў так, потым устаў і, прыжмурыўшы левае вока, пачаў перабіраць білеты, круцячы іх перад цьмянай электрычнай лямпкай.

—Во, во, знойдзеш сам і пакажаш, які належыцца, — бурчаў рэвізор, трасучы за плячо васпаватага пасажыра.

—Спадар, ваш білецік!..

Пасажыр страпянуўся, падняў галаву, але разабраўшыся, у чым справа, паспакайнеў:

—Ды ёсьць білецік, ліха яго матары...

І пачаў шнырыць па кішэнях. Нешта абмацаў. прыслухаўся і сказаў:

—Вось і ён, — выняўшы з кішэні сэзонны білет, падаў яго рэвізору.

Рэвізор спачатку глянуў на чалавека, потым на білет і вярнуў яго назад.

—Вось і ты, дзядзька, прыдбаў-бы такую штуку,— рэвізор абярнуўся да чалавека ў аблавухай шапцы. — А то назьбіраў чорт ведае якіх білетаў і сам толку не дабярэш. А можа ты ня браў білета? Га? — рэвізор хітра глянуў з-пад акуляраў.

Вочы чалавека забегалі. Угнуўшы галаву і пазіраючы сабе пад ногі, ён каторы ўжо раз пачаў абмацваць кішэні ў плашчы, у фрэнчы, капашыўся за пазухаю. Ен спацеў, змогся і, не падніма̂ючы галавы, нарэшце сказаў:

—Вот-жа браў білет...

—Ды яно відаць, — тлустыя губы рэвізора скрывіліся на ўсьмешку.

—Чаму-ж гэта вы ня верыце чалавеку? — ня вытрывала дзябёлая жанчына ў чорным вышываным кажушку.

Рэвізор ні абяліў, ні ачарніў.

Чалавек скінуў плашч, расшпіліў фрэнч, зьняў віславухую шапку... Бяз шапкі зрабіўся маладзюсенькім і дробным, як дзіцятка, нават папрыгажэў.

—Калі не паклаў, чалавеча, то і ня знойдзеш, — рэвізор ужо кіпеў ад злосьці, — і няма чаго марочыць галаву другім. Пройдзем, калі ласка, са мною...

—Нікуды я не пайду, — адрэзаў чалавек. — Чаго я маю ісьці, калі я браў білет.

Невядома, што было-б далей, але на гэты гоман падышоў маладзейшы рэвізор, з абшарпаным партфелем і пад вусікамі.

—У чым справа? — малады і пад вусікамі падняў вочы на таго, што ў акулярах.

—Ды вось спадар ня мае білета, — кіўнуў рэвізор на чалавека і адвярнуўся.

—Як гэта бяз білета, — асек чалавек рэвізора і выцягнуў з кішэні пук білетаў. — Будзьце ласкавы, — ён працягнуў білеты таму, што пад вусікамі.

—Пераглядзіце іх. Я, дык ліха яму, не дабачваю.

Рэвізор падазрона ўсьміхнуўся і рэдкія вусікі яго расплыліся.

—Дальбог, ня браў гэты чалавек білета, — дыхнула на мяне нечым кіслым дзябёлая жанчына.

—Можа ў яго ні капейкі ў кішэні, — заступіўся вастраносы хлапец.

Рэвізор перакінуў білеты з рукі ў руку, патасаваў і неяк наводмаш шпурнуў іх у куток вагона пад самыя дзьверы. Пазяхнуў і, пацёршы далонямі вочы, не пазіраючы на чалавека сказаў:

—Прыдзецца плаціць штраф.

—Дзе я вазьму грошай на штраф. Ды за што штраф, калі я купляў білет, — рукі чалавека трэсьліся і ён ніяк ня мог зашпіліць фрэнч.

—Прыстанак. Хто выходзіць на гэтым прыстанку... — гукнула з другога канца вагона правадніца.

Людзі заварушыліся і з нейкай пасьпешнасьцю плылі да выхаду.

Чалавек насунуў на лысую галаву віславухую шапку, накінуў плашч, патупаў на месцы і, нічога ня кажучы, неяк цішком шмыгнуў да дзьвярэй.

—Спадар, вярніцеся, — апомніўся высокі рэвізор, але за чалавекам кінуўся ніжэйшы пад вусікамі.

Пачуўшы голас рэвізора, чалавек у аблавухай шапцы аж здрыгануўся, але, не азіраючыся, з затоенай цярплівасьцю чакаў, што будзе далей.

—Спадар... — расьпіхваючы пасажыраў, гукаў рэвізор.

Чалавек дайшоў ужо да дзьвярэй.

—Трымайце яго! — рэвізор з усяе сілы рвануўся да выхаду. Пралез уперад і праз галовы людзей схапіў чалавека за каўнер.

Чалавек рвануўся раз, другі, але тут-жа аслабеў, прыгнуўся і, не азіраючыся, са злосьцю папрасіў:

—Не прыставай, я купляў білет.

—Я кажу вам, вярнецеся назад! — ніжняя рэвізорава губа дробненька дрыжэла.

Чалавек, не адазваўшыся, вярнуўся на старое месца.

—Вашы дакуманты? — запытаўся той, што ў акулярах.

—Маю ўсяго пропуск.

—А іншых няма? — перапытаў рэвізор, але падумаў і згадзіўся: — Добра. давай пропуск.

Чалавек падаў шэрую зашмальцаваную паперку. Высокі ў акулярах пакруціў яе і перадаў нізкаму пад вусікамі.

—Ды гэта, браце мой, аж пазалеташні пропуск, — агледзеўся той, што пад вусікамі.

—Я на той самай рабоце.

—Дурыць дзядзька галовы людзям, — скрывіўся вастраносы хлапец.

—Ды няўжо-ж, — зноў дыхнула на мяне дзябёлая жанчына. — Трэба-ж рабіць неяк па-людску. Ня маеш білета, то скажы, што ня маеш. А нашто махляваць ды хвальшывыя дакуманты паказваць.

—А табе што, вось сядзі, калі сядзіцца, — агрызнуўся чалавек і пакруціў

галавою. — От не была-б то баба... Дзе сам чорт носа ня ўшчэміць — там яна...

—Я маю білет і куды-ж гэта я паеду, га?

—Прыпынак, — аб'явіла праваднiца

Цягнік сьцішыў ход і неўзабаве спыніўся. Людзі хлынулі да выхаду. З адчыненых насьцеж дзьвярэй валіў холад.

—Спадар рэвізор, куды і чаго я маю ехаць? — чалавек занепакоіўся і пачаў прасіцца. Ён чакаў літасьці, апекі, але рэвізор гыркнуў са злосьцю:

—Мы вас даставім у паліцыю, каб вы яшчэ раз паказалі свае фальшывыя дакуманты.

—Якія фальшывыя? — зьдзівіўся чалавек. — У чым справа? Я маю новы пропуск.

Чалавек нахіліўся і запусьціў руку глыбока за пазуху.

Вагон раптам тузанула, і чалавек пахіснуўся, але ўстаяў. З яго худога, няголенага твару сплыла нявясёласьць, а вочы жвава бегалі, шукаючы невядома чаго.

Але чалавек у нечым апомніўся: ён зьмяніўся ў твары, спахмурнеў:

—Ды куды-ж мяне везяце? Я пераехаў свой паўстанак...

Ён ледзь ня кінуўся біцца.

—Цішэй едзеш, далей будзеш, дзядзька, — бяз ніякай злосьці сказаў той, што пад вусікамі. — Вось лепш пакажы свой новы пропуск.

Чалавек расшпіліў плашч і, паляпаўшы рукамі па нагрудных кішэнях фрэнча, намацаў пропуск і дастаў яго. Рэвізор кінуў вокам на пропуск і схаваў яго ў сваю кішэню.

—Нікуды, дзядзька, не адлучайся, а мы зараз вернемся, — папярэдзіў высокі ў акулярах, і рэвізоры высунуліся з вагона.

—Нарваліся-б яны на мяне, ліха іх матары, — азваўсяваспаваты.

—Дык я-ж і кажу, — умяшалася ізноў дзябёлая жанчына. — Калі ня маеш білета, то ўжо маўчы.

—А чаго я маю маўчаць, — агрызнуўся чалавек і пайшоў падбіраць параскіданыя білеты.

—Нашто яны ўжо табе?

—Тут недзе білет сяньняшні. Сам я не дабачваю, то можа, хто паглядзеў-бы.

—Давай, — падняўся з лаўкі васпаваты.

Чалавек у аблавухай шапцы замітусіўся, і вочы яго весела забегалі.

—Будзьце ласкавы.

Васпаваты выцягнуў з кішэні загорнутыя ў насоўку акуляры, пахукаў на шкельцы, далікатна выцер іх насоўкай і гэтак-жа далікатна надзеў акуляры на тоўсты чырвоны нос, — і тады ўжо ўзяў у чалавека білеты. Рабіў усё гэта ён з нейкім дзіўным гонарам і нейк ужо з лішняй уважлівасьцю і стараньнем. Перагледзеўшы білеты, ён адклаў адзін сабе і спытаў з глухім спакоем:

А гэта што, ліха іх матары?

А потым зычна, на ўвесь вагон засьмяяўся.

—Гы-гы-гы — білет.

Чалавек у аблавухай шапцы аж прысеў, нешта хацеў сказаць, але заікаўся, і на яго худым няголеным твары адбілася весялосьць



У вагоне ўзьняўся гармідар, людзі заварушыліся, загаварылі; хто агля-даўся, хто прыўзьнімаўся з месца, а хто нават прышоў у гэты канец вагона, каб даведацца, што тут рабілася і што мае быць яшчэ.

—Ах, Божачка мой! — пляснула рукамі жанчына ў чорным вышываным кажушку. — Чалавек мае білет, а яго вязуць невядома куды. Глядзі, Янечка, каб і мы не праехалі свой паўстанак!

—А я-ж думала, што дзядзька бязбілетнік, — сіпаватым не сваім голасам сказала бялявая дзяўчына.

Вострапосы хлапец пацісьнуў плячыма і змоўчаў. Яму, відаць, было не па сабе: сорамна і брыдка.

—А мы іх зараз прывядзём на расправу! — моцным грудным голасам сказаў васпаваты і, угнуўшы галаву, неяк сьмешна сігануў за дзьверы.

Рэвізораў я не дачакаўся. Цягнік падыходзіў да паўстанку, на якім я меўся сыходзіць. Я падаўся ў тамбур, каб бяз лішняй валтузьні і сьпеху выйсьці з вагона: прыгарадныя цягнікі рабілі на гэтым паўстанку кароткі прыпынак, пасажырскія за маю памяць ня спыняліся.

Паўстанак сустрэў мяне невясёласьцю і трывожным начным спакоем. Валіў мокры густы сьнег — сьвету белага ня відаць.

Мінуўшы чыгуначны пераезд, я вышаў на гразкую калдобістую дарогу. Перад вачыма стаяў чалавек у віславухай шапцы, дзябёлая жанчына, вастраносы хлапец і рэвізоры. Ідучы, я ўсё думаў пра тое, што было ў вагоне і дакараў сябе, што таксама, спытай чаму, быў не паверыў чалавеку... На сэрцы было неяк нядобра — першы раз у жыцьці я адчуў вялікую прыкрасьць.

Сяргей Грахоўскі

## ТАК І БЫЛО

Апавяданьне

Больш як дваццаць гадоў ня быў Андрэй Далініч на радзіме. Колькі разоў зьбіраўся і ўсё адкладаў: то ня было калі, то баяўся, што прыедзе і не пазнае хат, садкоў і гародчыкаў, ня сустрэне даўніх знаёмых. А хацелася верыць, што там і цяпер усё такое-ж, як і два дзесяцігодзьдзі назад: дзеці засталіся малымі, яго равесьнікі — маладымі, а старыя ў тым-жа веку, як і тады, калі Андрэй расставаўся з імі.

Андрэй ведаў, што час усё зьмяніў і паставіў на свае месцы, ведаў, што вайна напалову зруйнавала яго драўлянае палескае мястэчка, што многіх равесьнікаў і сяброў даўно няма на сьвеце, што вырасьлі новыя людзі, што нанава забудаваліся вуліцы. А ўспаміны часьцей і часьцей непакоілі яго, нейкая сіла цягнула і клікала ў родныя мясьціны, хоць і ехаць ня было да каго: бацькі даўно памерлі, родзічы разьехаліся хто куды. Але ўсё-ж ён сабраўся ў дарогу.

На аўтабуснай станцыі поўна людзей, з чамаданамі, мяхамі і кошыкамі. На станцыях заўсёды здаецца, што нікому не ся-

дзіцца на месцы, што ўсе некуды едуць, сьпяшаюцца, нэрвуюцца і бяз дай прычыны абражаюць адзін аднаго, хоць і ўбачыліся першы і апошні раз.

Андрэй адшукаў акенца, над якім вісеў сьпіс гарадоў і вёсак. Сярод іх была назва і яго мястэчка. Ен агледзеў доўгую чаргу — ніводнага знаёмага. А некалі адразу знаходзіў сваіх, кожны гатоў быў узяць яму білет, заняць у аўтобусе месца.

Успомнілася, як было весела ехаць на вакацыі: цесна сядзелі крыху агаладалыя, але заўсёды рухавыя і дасьціпныя сябры — сьмяяліся, дабрадушна жартавалі адзін з аднаго, сьпявалі песьні аж да самага дому. Дзе яны цяпер, яго равесьнікі, куды іх раскідаў лёс?

Андрэй яшчэ раз агледзеў чаргу і нікога не пазнаў. Вось пры самым акенцы стаіць высокі ў саламяным капялюшы малады чалавек, ён трымае маленькі сакваяжык і набітую сетку. Напэўна, доктар. А дзе-ж калішні земскі лекар, Аляксандр Сьцяпанавіч? Ен заўсёды хадзіў вось з такім сакваяжыкам, толькі старым і пацёртым, ён першы сустракаў кожнага новага чалавека, што зьяўляўся на сьвет і першы праводзіў у нябыт таго, чый канчаўся жыцьцёвы шлях. Аляксандр Сьцяпанавіч ведаў усіх, і ўсе ведалі і шанавалі яго. "Калі толькі жывы, трэба будзе яго адведаць", — падумаў Андрэй і стаў у чаргу за высокай прыгожай дзяўчынай. Яна нават не азірнулася. Чыя-б гэта магла быць?

—Вы да Гаці? — спытаў Далініч, спадзеючыся завязаць гаворку. Яна акінула яго позіркам і сказала: "Так" і адвярнулася.

Андрэй падумаў, што гадоў дваццаць назад і незнаёмыя дзяўчаты адказвалі яму куды ласкавей, а цяпер, відаць, адразу заўважаюць яго сівізну, прыпухліны пад вачамі і дзьве глыбокія разоркі, што ляглі каля губ. Ен зноў падумаў: "Ці варта ехаць? Каго я там сустрэну, хто абрадуецца мне? Можа, як у гэтай чарзе, не спаткаю ніводнага знаёмага чалавека?"

За ім пачалі станавіцца з выгарэлымі на сонцы чубамі хлопцы. Мабыць, студэнты. Па колькі ім можа быць гадоў? Іх тады яшчэ і на сьвеце ня было, калі Андрэй апошні раз выехаў з дому. Чые-ж яны? Можа гэтая суровая з выгляду дзяўчына Броніна дачка? Андрэй пачаў углядацца ў твары, шукаць падабенства, якое бывае паміж дзецьмі і бацькамі, але так і не знайшоў.

—Адзін да Гаці, — сказаў ён, і толькі цяпер адчуў, як забілася сэрца, як хваля дрыготкай радасьці і тугі падступіла да горла. Ен даўно ўголас не гаварыў гэтае слова, але яно заўсёды жыло ў яго памяці, як матчына імя, як самая дарагая назва на зямлі. Ен часта марыў: "Калі-б толькі пусьцілі, на каленях папоўз-бы туды, бо там і паміраць ня страшна". Ен часта да болю выразна бачыў вузенькія вулачкі ў прысадах, зарослы алешнікам і па-



рэчкамі астравок пасярэдзіне Пцічы, высокі зялёны вал на самым беразе, што застаўся ад старасьвецкага замчышча князёў Гальшанскіх, а за валам — высозны белы касьцёл з двума званіцамі, густыя кусты бэзу і старыя пахілыя вербы. Колькі сьвітаньняў сустрэў Андрэй пад гэтымі вербамі ў пару свайго юнацтва, колькі зорак над ім праляцела, пра што ён толькі тут ні марыў, якія словы ні шаптаў, трымаючы ў сваіх руках гарачую далонь першай каханай! І яна перад ім ажыла, чыстая і сьветлая, маладая і шчасьлівая, з пышнымі русымі валасамі. Пад сьвятлом месяца яны здаваліся зіхатлівым німбам і пахлі рамонкамі і мятай.

Дзе яна цяпер? Якая? Колькі ёй год? Яна-ж амаль мая равесьніца, — думаў Андрэй. — Як яе называць? Броня? А можа ўжо афіцыйна? Як яе цяпер прозьвішча і хто яе муж? Ен разумеў, што ўжо ня можа ня ехаць, і часта пазіраў на гадзіньнік, чакаючы, калі падыдзе аўтобус.

Месца заняў Андрэй каля вакна і, як толькі выехалі з горада, пачаў углядацца ў знаёмую да драбніц дарогу, шукаць даўнія прыметы, але не знаходзіў іх. Зьлева і справа былі будынкі, роўнымі радамі прабягалі маладыя сады, а на гарызонце мігалі слупы высокавольтнай лініі. Ен маўчаў, заняты сваімі думамі але ўважліва прыслухоўваўся да гоману пасажыраў, спадзеючыся пачуць хоць адно знаёмае прозьвішча.

Рабілася горача і млосна. Сьціхалі галасы, і многіх пацягнула на сон. Ня спалася толькі Андрэю: было крышачку горка і дзіўна, што сярод землякоў ён зусім чужы. Мабыць, лічаць яго нейкім праезджым — "штурхачом" па кукурузе або ільну.

Пасьля паўдня паплылі знаёмыя краявіды: на жаўтапяску сіняватыя хвойкі, на ўзгорках гаі, а як выскачылі за паваротак дарогі, заіскрылася на сонцы рака. Яна здалася Андрэю вельмі вузкаю і ціхаю. Паміж купамі густых дрэў паказаліся хаты. Пасажыры адразу заварушыліся, пачалі здымаць сеткі і браць іншыя рэчы.

—Хіба пад'язджаем? — спытаў Андрэй у свайго суседа, якога палічыў за доктара.

—І на паўгадзіны раней, — адказаў той.

—А я дык нічога не пазнаю. Некалі кілямэтраў за дванаццаць быў бачны касьцёл, а вунь там стаяў млын, ды і рака здавалася шырэйшаю.

—Выходзіць, вы пасьля вайны тут і ня былі. Касьцёл зьнішчыла вайна, а рака, сапраўды, абмялела: лес высеклі, прыйшлося ўсё будаваць, вось і падчысьцілі лясы.

Аўтобус узьехаў на мост. У вадзе чарнелі старыя палі, блішчаў і гайдаўся аер, каля берагу стаяў з вудаю хлопчык у зака-

саных нагавіцах і ў вялікай салдацкай шапцы. Яна напаўзла на вочы, хаваючы твар. Андрэй зірнуў і, здалося, убачыў самога сябе на тым-жа месцы, дзе некалі прынаджваў плотак і акуньков, успомніў, як месячнымі начамі яны хадзілі сюды з дзяўчатамі, бегалі па мосьце. Далёка над туманнаю ракою каціласяі рэха іх галасоў. Сьвяціў месяц, а на хвалях іскрылася і гойдалася яго вузкая дарожка. У памяці зноў ажывалі даўно забытыя драбніцы дзяцінства і юнацтва.

—Скажыце, а доктар Быліновіч працуе яшчэ?

—Аляксандр Сьцяпанавіч? А як-жа, — ажывіўся Андрэяў сусед. — Хоць і даўно на пэнсыі, а з бальніцы ня вылазіць, да ўсяго яму справа, ніводнай апэрацыі не прапускае. Праўда, сам ужо ня робіць — рукі дрыжаць, але кансультуе, асыстуе, памагае маладым. Вось сапраўды заслужаны лекар.

—Як толькі я вас убачыў у чарзе, адразу падумаў, што вы мэдык, і, здаецца, не памыліўся.

Андрэеў сусед задаволена ўсьміхнуўся:

—Няўжо мэдыка можна пазнаць і без халата?

—Вы мне нечым нагадалі Аляксандра Сьцяпанавіча. Ня тварам, ня выглядам, а манерай трымацца, нейкім няўлоўным жэстам, нават паходкай. Я падумаў, што вы часта з ім бачыцеся, магчыма, разам працуеце і. . . прабачце, хочаце быць падобным на яго. А ў аўтобусе я паглядзеў на вашыя рукі. Рукі хірурга заўсёды вельмі чыстыя, дужыя і рухавыя, як у піяніста.

—У вас прафэсыйныя рысы сьледчага. . .

Андрэй аж пачырванеў.

—Што вы, сьледчым ніколі ня быў, хоць некалі і сустракаўся з імі. А людзей на сваім вяку перабачыў многа, усялякіх — і добрых, і дрэнных. Вось і навучыўся крышку разьбірацца ў іх.

—А якіх больш сустракалася? — запытаў малады доктар.

—Добрых, шчырых і чулых людзей мільёны, але мы іх не заўважаем, не расказваем пра іх учынкі, як пра важную навіну, а пра злачынствы аднаго нягодніка цэлы тыдзень гаворыць увесь горад. Такія сеюць у нашых душах асьцярогу і недавер да кожнага чалавека.

Студэнты прыціхлі, слухаючы Андрэевы разважаньні, а машына ўжо грукатала па горадзе.

Аўтобус спыніўся на плошчы. Пасярэдзіне яе разросься вялікі сквер. Андрэй выйшаў і пачаў аглядацца.

—Вы ў які бок? — спытаў малады доктар.

—Мабыць у гасьцініцу. Дзе яна цяпер?

—Тады нам па дарозе.

Яны разам пайшлі праз сквер. Ен шумеў празрыстым лісьцем ясеняў і клёнаў, уздоўж дарожак стаялі вузкія лавачкі, але на іх нікога ня было: усе занятыя, кожны працуе. Андрэй заўважыў, што высокая трава ў скверы аж палягла, падумаў, што яе даўно пара скасіць, а загаварыў зусім пра іншае:

—На гэтым месцы гадоў трыццаць назад быў вялікі рынак. Кожную нядзелю стаялі сотні вазоў з паднятымі аглоблямі, а колы па самыя трубкі плавалі ў гразі. У восень заўсёды быў вялікі кірмаш, сіла людзей зьязджалася. . . А клёны каля таго плоту і я садзў, здаецца, у пятым класе. Ого, якія вялікія вымахалі. . .

—Дык, выходзіць, вы тутэйшы, а я думаў праезджы, — прызнаўся доктар.

—Радзіўся, маленства і юнацтва тут прайшло, а цяпер нікога і нічога не пазнаю. — Андрэй абвёў позіркам некалькі камяніц, глядзеў на новыя дамы і нічога не пазнаваў.

Разьвітваючыся каля гасьцініцы, малады доктар затрымаў Андрэеву руку і спытаў:

—Прабачце, а як ваша прозьвішча?

Той назваўся.

—Знаёмае. Гэта, мабыць, пра вас мне расказваў Аляксандр Сьцяпанавіч.

—Калі вы яго пабачыце раней за мяне, перадайце самае шчырае прывітаньне і скажыце, што вельмі хачу яго сустрэць.

**
*

Бадай усе раённыя гасьцініцы падобны адна на адну: аднолькава рыпяць прыступкі на ганку, з бляшанага ўмывальніка капае вада, усюды вузенькія калідоры і вялікія пакоі з мноствам нікеляваных ложкаў. Адзін з іх заняў Андрэй. Лёг, заплюшчыў вочы і толькі цяпер адчуў, што стаміўся ад дарогі і ўсяго перажытага, адчутага. Але заснуць ня змог.

Як толькі пачало зьмяркацца, Андрэй выйшаў на вуліцу. Тут, бадай, нічога не зьмянілася з яго часоў: стаялі тыя-ж домікі і хаты, хіба можа трохі асунуліся і пачарнелі, а на царкве званіца зьнікла. Цяпер тут кінатэатр. Цьвінтар разгароджаны, а кусты бэзу парадзелі і высахлі. Вось і два збуцьвелыя слупкі ад колішняй лавачкі. Андрэй спыніўся каля іх, успомніў, як некалі тут сядзелі яны з Броняй, прытуліўшыся адно да аднаго. Броня, Броня! Дзе ты цяпер? Хацелася адразу кінуцца шукаць яе, але чамусьці рабілася страшна: мінула-ж столькі часу, вайна зьнішчыла, пакалечыла, раскідала па сьвеце мільёны людзей. А колькі іх загінула ў пекле, з якога пашэнціла вырвацца Андрэю!

Можа Броня тут, побач, у сваім доме, з мужам, з дарослымі дзецьмі, працуе ў той-жа школе? Хаця і школа, відаць, новая. Андрэй не заўважыў, як дайшоў да Бронінага дому. Некалі тут у гародчыку цьвілі настурцыі і вяргіні, ганак быў густа заплецены дзікім вінаградам. Андрэй кожны вечар праводзіў Броню дахаты, яны доўга стаялі на прыступках і ніяк не маглі разьві-

гацца, пасьля садзіліся на лавачку, ён нахіляў яе твар пад вузкі праменчык блакітнага месяца і ў нейкім шалёным парыве цалаваў вочы, пахаладзелыя ад начной сьвежасьці шчокі і падпухлыя гарачыя вусны.

—Наступнаю вясною, — казаў ён, — абараню дыплом і прыеду ў нашу школу. Будзем разам ранічкаю бегаць на заняткі, а вечарамі чытаць, слухаць музыку, арганізуем драматычны гурток.

Броня слухала і бліжэй тулілася да яго. Андрэй чуў, як тахкае яе сэрца, лавіў гарачае дыханьне і ўглядаўся ў добрыя, разумныя шэрыя вочы. Ен і цяпер адчуў яе настолькі выразна, што здавалася, зрабі крок і — дакранешся да яе цёплай рукі. Андрэй матнуў галавою, нібы адганяючы сон, і ўбачыў разгароджаны палісад і голы ганак, а ў вакне маладога мужчыну ў жоўтай майцы і незнаёмую маладзіцу з дзіцяткам на руках. Зрабілася цяжка і горка — усё было чужое. Ен пачаў сябе суцяшаць, што яна магла пераехаць у другі дом, атрымаць школьную кватэру або пасяліцца ў мужа. А калі яна тут, як мы сустрэнемся, што будзем гаварыць? Мабыць, як заўсёды ў такіх выпадках, — нешта другараднае і банальнае. Мы-ж чужыя, зусім чужыя. А можа і не. Першае чыстае каханьне радніць людзей на ўсё жыцьцё, нават калі іх разлучыў лёс. Ен цяпер прызнаўся сабе, што і ехаў сюды, каб хоць здалёк пабачыць Броню.

У памяці ажывалі даўно забытыя драбніцы: Броня ў лёгкай ружовай сукенцы, у шкарпэтках з сінімі абадочкамі і ў беленькіх гумовых тапачках. Нейкім другім зрокам, нібы збоку, угледзеў Андрэй і сябе — маладога, загарэлага, з чупрынаю густых валасоў, у белай вышыванай кашулі. Яны тады разьвіталіся да вясны. Зімою Андрэй прыехаць не абяцаў — хацеў крыху зарабіць грошай на завочным аддзеле свайго інстытуту і пасядзець у бібліятэцы над дыплёмнай работай.

Ен прасіў Броню, каб яна прыехала ў Менск на зімовы перапынак. У яго-ж ёсьць маленькі прыватны пакойчык на ўскраіне горада. Броня пажыве ў ім, а ён будзе начаваць у інтэрнаце.

—Што ты? Няёмка! Людзі ліха ведама што падумаюць, гаворкі і плётак не абярэшся.

Андрэй прасіў і даводзіў, што ў іх усё даўно вырашана і кожнаму ясна, што будзе праз год і праз дзесяць гадоў. Яны бачылі сваё будучае выразна, як той, другі бераг ракі. Варта толькі пераплысьці — і яны будуць разам на ўсё жыцьцё, да канца адчуюць шчасьце блізкасьці самага дарагога чалавека, бяз якога жыцьцё губляе хараство і вялікую радасьць. Андрэй так кахаў Броню, што ніколі не адважваўся нават падумаць пераступіць мяжу іх адносін. Яго цягнула да інтымнай блізкасьці, але цяпер гэта было-б непапраўнаю абразаю іх сьвятых і чыстых



пачуцьцяў. Ен успомніў апошняе лета свайго каханьня, жнівеньскую гарачыню, дарогі, прыцярушаныя хрумсткаю саломаю. Над ваколіцамі павольна асядаў падзалочаны сонцам пыл, а далёка ў полі плыла ціхая працяжная жніўная песьня. Яна чулася Андрэю заўсёды, як толькі ён успамінаў родныя мясьціны, гучала ў закратаваных цяплушках, на замеценых сьнегам тайговых гасьцінцах, у закураных брудных бараках і перасылках. Ад яе ныла сэрца тугою і болем па зямлі яго маленства, па тым жнівеньскім надвячорку, што застаўся ў памяці на ўсё жыцьцё. Ен тады цэлы дзень падаваў снапы ў малатарню на таку, а як зьмеркла, ужо быў на Броніным ганку. Яны гулялі ўсю ноч і ня прыкмецілі, як апынуліся за мястэчкам, як пайшлі па цьвёрдай сьцяжынцы, што вілася ўздоўж шырокай пясчанай дарогі. У далінах курыўся туман, месяц узышоў позна, і ад яго цені здаваліся доўгімі і сьмешнымі. Недалёка ад мястэчка была высокая гара, а на самым яе версе стаяў вялікі трыганамэтрычны маяк. Андрэй узяў Броню за руку:

— Хадзем на маяк.

Яна спынілася.

—Позна і далёка, дый раса буйная, ногі прамочым. Можа, лепей вернемся.

Андрэй падхапіў яе на рукі і пабег па сьцежцы. Броня сьмяялася і спрабавала вызваліцца. Пасьля яны беглі навыперадкі, лавілі адно аднаго. Ім здавалася, што апрача іх нікога ня было на сьвеце. Пад месяцам мігцеў росны жніўнік. У полі было ціха і пуста. Яны ўзышлі на гару.

—Палезем на самы верх маяка, — прапанаваў Андрэй. І палезьлі. Сталі побач, узяўшыся за парэнчы. Яны ўпершыню адчулі такую вышыню, хараство і бязмежнасьць жыцьця і сьвету. Унізе слаўся туман, пранізаны сьвятлом месяца, лёгкі ветрык перабіраў Броніны валасы, яе вочы гарэлі замілаваньнем і шчасьцем, а вусны ў дзіцячай усьмешцы. Пра што гаварылі тады, Андрэй ужо ня помніў, ведаў толькі, што далі адно аднаму слова ніколі не разлучацца.

Але пасьля той ночы сустрэліся яшчэ толькі адзін раз. Зімою Андрэя выклікалі тэлеграмай. Памірала маці. Ен кінуўрынуў усё і прыехаў дахаты. Некалькі дзён не адыходзіў ад бальнічнага вакна, а калі маме стала зусім кепска, Аляксандр Сьцяпанавіч пусьціў яго ў палату. Маці пазнала яго, але сказаць ужо нічога не магла. Раніцою яна сканала. Тады з гора Андрэй упершыню закурыў. І цяпер ён выцягнуў з кішэні цыгарку, пачаў закурваць і заўважыў, што далёка адышоў ад Бронінага дому і апынуўся на галоўнай вуліцы мястэчка.

Андрэя абміналі незнаёмыя маладыя людзі, каля хат сядзелі пажылыя жанчыны, здавалася, што ён іх некалі бачыў, але яго

ніхто не пазнаваў. Ен зноў быў у палоне сваіх успамінаў, нават адчуў на сьпіне халадок той далёкай сьнежаньскай раніцы. Недзе рыпнуў журавель, а яму нагадаўся скрып палазоў па іскрыстым сьнезе, і даўкі сухі камок падкаціўся да горла. Добра, што побач была Броня. Калі пачалася паніхіда, яны непрыкметна выйшлі з хаты. Навокал ляжалі гурбы сьвежага сьнегу, а неба было нізкае і шэрае. Броня ўзяла Андрэя пад руку, і яны паціху пайшлі на могілкі. Яна не суцяшала, а толькі моцна сьціскала вышэй локця яго руку. У лёгкія студэнцкія чаравікі набіваўся сьнег, ён раставаў, і рабілася холадна.

Могілкі былі ў сумётах. Старыя хвоі ўкрыў густы іней, кусты да самай зямлі прыгнуў цяжкі сьнег, а крыжы стаялі ў белых стаўбунаватых шапках. Сьцежачка ў два сьляды вяла па цаліку ад варот. Андрэй з Броняю стаялі пад сасною, а каля ног ляжала мёрзлая, перамешаная са сьнегам гліна, аскабалкі карэньняў і чарнела вузкая неглыбокая магіла. З яе цягнула сырою зямлёю.

Калі закончыўся пахавальны абрад, адгаласілі жанкі, адгрукалі мёрзлыя камякі па веку дамавіны і ўсе разышліся, Андрэй з Броняю яшчэ доўга стаялі каля сьвежай матчынай магілы. Яму было сорамна і прыкра, што не адважыўся ісьці за труною, пабаяўся, каб ніхто ня ўпікнуў, што ідзе разам са сьвятаром, каб не напісалі ў інстытут, а там-бы ўжо зрабілі арганізацыйныя вывады! Дый Броні ня было як ісьці — яна-ж настаўніца. За гэтую думку ўхапіўся Андрэй і хацеў апраўдацца перад самім сабою і перад Броняй, прыкрыць страх, які ўсё глыбей і глыбей разьядаў кожнае сэрца.

Броня ўзяла яго за рукі:

—Ведай, што цяпер я для цябе буду і маці, і сястрою, і... усім на сьвеце. Што-б ні здарылася, я заўсёды буду з табою...

Яна гаварыла ціха, а гэтыя словы Андрэй чуў і цяпер. Ен іх часта ўспамінаў на этапах і на замеценых сьнегам дарогах, верыў спачатку, што хутка вернецца дамоў, што кончыцца дзікае непаразуменьне і пакуты, але з гадамі траціў надзею.

На другі дзень пасьля пахаваньня Андрэй паехаў у Менск.

—Да вясны! — крыкнула яму ўсьлед Броня.

Колькі прайшло з тае пары вёснаў? Дзеці, што нарадзіліся пасьля іх разьвітаньня, вырасьлі, павыходзілі замуж і бацькамі сталі, а яны так і ня сустрэліся. І ці сустрэнуцца? А можа яна тут, недзе зусім блізка? Каго вінаваціць, што яны, не зьвязалі сваё шчасьце? Няма каго. І ўсё-ж нехта вінаваты, але толькі ня ён і не яна.

Яшчэ доўга хадзіў Андрэй па начным мястэчку. Апоўначы ён вярнуўся ў гасьцініцу. І зноў доўга ня мог заснуць.

(працяг будзе)

# Гумар і сатыра



Выхаваньне характару.

—Чуў, што ты ажаніўся?
—Так.
—Дык мусіш быць шчасьлівы?
—Мушу.



—Які цудоўны твор!
—Між іншым, гэта плян супрацьпажарнае ахароны...



...а тагды кажа мне: "Мой Ангеле, дай мне на мінутку пакіраваць машынаю".



—Прачытай яшчэ раз апошні сказ. Выдаўся мне зусім бяз сэнсу.

Да вялікага грэцкага філосафа Сакратаса, зьвярнуўся яго прыяцель з запытаньнем:
—Парадзь: ці жаніцца мне, ці не?
—Што ня ўчыніш — адказаў філозаф — напэўна будзеш шкадаваць...

—Дзякую вам цётачка за падарунак.
—Глупства, няма за што дзякаваць.
—Яно так, але мама прыказала мне вам падзякаваць.

—Чаму ты паўтараеш плёткі?
— А што-ж мне рабіць, калі я сама ня ўмею іх выдумляць?

—Ты ня можаш пазычыць мне 300 даляраў?
—А на што табе грошы?
—Хачу раз і назаўсёды расплаціцца з даўгамі.

—Ці часта бываеш іншае думкі, як твая жонка?
—Часта. Але яна пра гэта ня ведае.

—Доктар станоўча забараніў маёй жонцы займацца кухняю.
—Што ты, твая жонка хворая?
—Не, я хворы.

—Мая жонка зусім ня ведае, чаго хоча.
—Маеш шчасьце. Мая ведае добра.

—Уяві сабе, што пасьля апэрацыі сьляпой кішкі, я згубіў 8 фунтаў вагі.
—Няўжо? Што ты кажаш? Я ніколі ня думаў, каб сьляпая кішка гэтулькі важыла...

—Памятаеш, тата, як пазалетась мне расказваў, што цябе выкінулі са школы...
—Чаму ты гэта прыпомніў?
—Так сабе думаю, што аднак гісторыя паўтараецца...

---

## З П А Д С Л У Х А Н А Г А і
### п а д г л е д ж а н а г а...

Падслухана ў Дэтройце пра Лівонскіх татаў...
—"Сам сіў-сіў, а дзеткі ціў-ціў."

Падгледжана:
...што адзін Доктар у Дэтройце чытае беларускую газэту, якая каштуе яму 10 даль. за паасобнік.

Ходзіць гутарка такая:
Пасьля 12-ці гадовага існаваньня, Аддзел БАЗА ў Дэтройце прыдбаў сваю першую грамадзкую маёмасьць, — джас барабан.

Сябры Аддзелу БАЗА ў Дэтройце прадбачаюць:
...што новы старшыня Аддзелу паставіць на ногі грамадзкую дзейнасьць сяброў заплянаваўшы: арганізаваць 3 Забавы, 2-ве Акадэміі і, калі будзе добрая пагода, 1 пікнік.

Трэба спадзявацца:
...што, як кожны год, Агульны Гадавы Сход сяброў Аддзелу БАЗА ў Дэтройце горача прадыскутуе патрэбу набыцьця "Грамадзкага Дому", і з надхненьнем адложыць гэтую справу на наступны год.